НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 19 (808) 22 мая 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# I мова, і каўбаса!



КАЛАЖ СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

**Замест таго каб хаваць беларусаў разам з мовай, варта прапанаваць народу мову, і каўбасу! Старонка 12.**

## Палітыка

### Пяць фактаў пра Вольгу Карач

Кіраўніца «Нашага Дома» пра прэзідэнцкія амбіцыі. **Старонка 3.**



## Музыка

### «Еўрабачанне»: выйграюць не тыя, хто фальсіфікуе

У Швецыі гэты конкурс суперпапулярны. **Старонка 6.**



## Гутарка

### Таццяна Равяка: Я не жалезная лэдзі

Бацькі ніколі не казалі мне, што я раблю нешта не так. **Старонка 9.**



## Гісторыя

### Шэсць японскіх шляхціцаў

Пра што пісалі «газеты» Рэчы Паспалітай? **Старонка 13.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Беларус Гальчанюк заваяваў «бронзу» для ЗША

**Алекс Гальчанюк** закінуў пераможную шайбу ў гульні з Расіяй, а потым рэалізаваў вырашальны буліт у вароты Фінляндыі.

Такім чынам зборная ЗША заваявала бронзавыя медалі на хакейным першынстве свету ў Швецыі.

### Беларус?

Алекс нарадзіўся ў 1994 у Мілуокі, штат Вісконсін. Тады ў Штатах за мясцовую каманду гуляў ягоны бацька.

Ці можна называць Алекса беларусам? Што кажа на гэта сам хлопец: «Усё ж такі я нарадзіўся ў ЗША. Больш правільна сказаць так: я амерыканец з беларускімі каранямі. Не хаваю, што ў мяне ёсць беларуская кроў. Кожны год наведваю радзіму бацькі, каб аднавіць сілы, дапамагчы бабулі з дзядулем на дачы. Заўсёды з задавальненнем прыязджаю ў Мінск», — казаў Алекс у інтэрв'ю газеце «Прессбол».

Мы патэлефанавалі дзядулю Алекса Мікалаю Гальчанюку. «Рады за ўнука. Ён пасля чэмпіянату паехаў на адпачынак. А ўжо тыдні праз тры будзе ў мяне», — сказаў Мікалай Аляксандравіч.

### Чаму гуляе за ЗША?

«Мне не прапаноўвалі гуляць за беларускую зборную. За ўвесь час я не размаўляў ні з адным з кіраўнікоў вашай федэрацыі. Признацца, такое стаўленне дзіўнае. Усе ведаюць, што баўлю лета ў Мінску, але тым не менш ніхто не знайшоў час хоць бы выйсці на сувязь. Ну што ж, не трэба дык не трэба».

### Бацька

Імя бацькі Алекса Аляксандра Гальчанюка вядомае ў хакейным свеце. Аляксандр нарадзіўся ў Мінску, шмат гадоў выступаў за зборную Беларусі, нават на Алімпіядзе ў Нагана-1998. Гуляў у клубах Беларусі, Расіі, ЗША, Германіі, Італіі.



### «Манрэаль» і французская мова

Апошні год хакеіст выступае за самы праслаўлены клуб НХЛ — «Манрэаль Канадыянс», за які некалі выступалі беларусы браты Касціцыны і Міхаіл Грабоўскі. На рахунку маладога спартсмена 9 шайбаў і 18 перадач у гэтым сезоне.

Калі Алекс апынуўся ў Манрэалі, ён найперш паабяцаў падцягнуць сваю французскую мову (Манрэаль — горад у франкамоўнай канадскай правінцыі Квебек) і нават зрабіў некалькі допісаў у твітар пафранцузску.

Заакіянская прэса адзначае, што Гальчанюк упэўнены ў сабе гулец, які мае добрае пачуццё лёду і крэатыўнасць у атацы.

**Зміцер Панкавец**

**Швецыя — чэмпіён**

Пераможцам хакейнага першынства сталі гаспадары турніра — шведы. У вырашальнай сустрэчы «Трэ крунар» выйгралі ў Швейцарыі з лікам 5:1. Альпійцы ў другі раз у гісторыі занялі такое высокае месца. Шведы ж сталі чэмпіёнамі ў дзявяты раз. Наступны чэмпіянат свету праз год прыме Мінск.



**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15750 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18911 руб./месяц.

## Сцісла

### «Пагоня» на балконе — 200 тысяч

За тое, што былы настаўнік фізікі, а цяпер прадпрымальнік з Падсвілля (Глыбоцкі раён) Мар'ян Місевіч размаляваў свой балкон у колеры нацыянальнага сцяга ды прымацаваў «Пагоню», яго прызналі парушальнікам адміністрацыйнага заканадаўства ды пакаралі штрафам памерам 2 базавыя велічыні

### Прадпрымальнік Статкевіч-Чабаганаў трапіў у бальніцу

Гэта першы беларускі бізнэсовец, які зрабіў сваё шляхецкае прозвішча і герб бізнэс-брэндам. У яго здарыўся мікраінсульт. Праз карэспандэнта «НН» ён перадае падзякі ўсім , хто цікавіцца яго здароўем і чытае яго кнігі.

### Пра паўстанцаў-каліноўцаў

Аўтарамі новай кнігі сталі Дзяніс Канецкі і Зміцер Хаценчык. Кніга апавядае пра падзеі паўстання 1863 года на Вілейшчыне. З такіх падрабязных летапісаў паўстае агульная карціна гісторыі нашай зямлі.

**СГ, СМ, ЯМ**

## Апытанне на nn.by

### Ці Вам падабаецца, калі палітык карыстаецца дарагім ноўтбукам Apple?

| | | |
|---|---|---|
| Так, значыць ён салідны чалавек | 52 | 1% |
| Не, бо звычайны беларус такога сябе дазволіць не можа | 94 | 20% |
| Так, бо гэта знак добрага густу | 88 | 19% |
| Не, бо гэта піжонства | 157 | 34% |
| Якое дрэва, такі клін... | 69 | 15% |

Усяго галасавала 460 чалавек.

**Глядзі старонку 3.**

## Рэкамендуем

### Юрый Зісер дзеліцца сакрэтамі бізнэсу

Чарговы выпуск «Рупара эпохі».

**Глядзіце і чытайце на nn.by.**

## Самае чытанае на nn.by за 15–21 мая

1 Меню для продкаў: як на Радаўніцу «сервіруюць» магілы — фотарэпартаж Гудзіліна

2 Хлопец грымнуўся з балкона ў метро Няміга, пасажырка зафіксавала гэта на відэа

3 «Еўрабачанне»: Ланская трапіла ў фінал — анлайн

4 Бацьку Ірыны Абельскай пры Сталіну асудзілі на 25 гадоў як антысаветчыка

5 Анджаліна Джолі выдаліла грудзі з-за пагрозы раку

6 Лесбійскі перформанс, Black Sabbath і хіпстары: другі паўфінал «Еўрабачання»

7 На поўдні Беларусі размножыліся ядавітыя тарантулы

8 Чарговы скандал на дзяржаўным ТБ: абгарэлая «ахвяра салярыя»…

9 Якая бітва была вырашальнай у Другой сусветнай — на Чудскім возеры ці Куліковскай?

10 Мужчына загінуў пасля сэксу з гняздом шэршняў

# Пяць фактаў пра Вольгу Карач

Кіраўніца грамадскай арганізацыі «Наш Дом» Вольга Карач заявіла пра свае прэзідэнцкія амбіцыі. Але як канкрэтна яна збіраецца дзейнічаць на прэзідэнцкіх выбарах-2015, не адказала. «Ва ўсіх жанчын ёсць свае маленькія сакрэты. Няхай і гэта будзе маім сакрэтам. Прыйдзе 2015 — даведаемся», — адказала Вольга.



## 1. Настаўніца і «Зубр»

Вользе 34 гады. Яна з Віцебска. Нарадзілася ў сям'і рабочых. Слухае расейскі шансон. Скончыла сярэднюю школу з залатым медалём, пасля Віцебскі педуніверсітэт — з чырвоным дыпломам.

Па адукацыі — настаўніца рускай і беларускай моваў. Чатыры гады адпрацавала ў школе.

У юнацтве Вольга марыла стаць пісьменніцай. Пісала невялікія апавяданні і вершы. У ВНУ стварыла літаратурную суполку «Сёмая грань», якая ў будучыні перарасла ў віцебскую суполку «Зубра». Вольга ўзначальвала «Зубр» у Віцебскай вобласці.

## 2. Дэпутат мясцовага савета

У 2004 Вольга стала дэпутаткай Віцебскага гарсавета. Перамагла на выбарах галоўную доктарку паліклінікі і кіраўніка аднаго з ЖЭСаў.

«Усё, што можа гарсавет, — гэта выціскванне нейкіх сродкаў з прадпрымальнікаў, але бюджэт пусты, а прадпрымальнікам і так кепска», — казала Вольга ў адным з інтэрв'ю.

Карач казала, што выбарцы ў сваіх лістах да дэпутата найчасцей пісалі: «Просім расстраляць таго і таго».

«Спачатку да мяне ставіліся не вельмі сур'ёзна: дзяўчынка нейкая 40-га памеру, я не магу прастай масай прымусіць да мяне прыслухоўвацца, але пасля таго, як некалькі разоў выступіла, мяне пачалі паважаць», — так падсумоўвала яна досвед працы ў гарсавеце.

## 3. Сям'я

Карач замужам за журналістам, грамадскім дзеячам Алегам Баршчэўскім (пляменнікам перакладчыка і палітыка Лявона Баршчэўскага) ужо 14 гадоў.

«Мой муж вельмі разумны ды актыўны, і я шчаслівая, мне з ім вельмі пашанцавала», — прызнавалася Вольга.

Дзяцей у сужэнцаў няма. У інтэрв'ю «Народнай волі» Карач прызнаецца, што страціла дзіця — памерла ўнутры яе. «Пасля чысткі была бяздонная чорная пустэча, я ляжала на ложку і павоўчаму выла».

У гэтай самай гутарцы Карач расказвае, што перанесла цяжкую хваробу, тры месяцы ляжала. Нават не верыла, што будзе хадзіць без мыліц. Аднак змагла яе перадолець.

Сведкам на вяселлі Карач і Баршчэўскага быў Павел Севярынец — віцебскі сусед Баршчэўскіх.

## 4. «Наш Дом» і АГП

На апошніх прэзідэнцкіх выбарах Вольга Карач была ў ініцыятыўнай групе Ярослава Раманчука. Аднак Віцебская вобласць сабрала найменш подпісаў за вылучэнца ад АГП.

Падчас тых выбараў лічыла, што інтарэсы Расіі могуць супадаць з інтарэсамі апазіцыі. Спадзявалася, што Крэмль можа дапамагчы ў замене Лукашэнкі.

Цяпер Карач узначальвае кампанію «Наш Дом». Кампанія ў асноўным грунтуецца на лакальных сацыяльных праблемах: грамадскага транспарту, паліклінік, пад'ездаў дамоў, велапаркоўак. Адносна макраэканомікі Карач выказваецца рэдка.

Актыў «Нашага Дома» ў вялікай частцы складаюць пенсіянеры, як афіцэры ў адстаўцы Валеры Шчукін і Мікалай Петрушэнка.

## 5. Дзе жыве?

Жанчына пакуль яшчэ ніколі не была кандыдатам у прэзідэнты Беларусі. Калі не ўдалося мужыкам, то чаму не паспрабаваць паставіць на жанчыну, думаюць некаторыя паліттэхнолагі.

Зрэшты, апошнія два гады Вольгу Карач не бачылі ў Беларусі. На фотаздымках яна з'яўляецца на вуліцах Прагі, Вільні і Стакгольма, а не Мінска ці Віцебска.

У канцы 2011 да бацькоў Вольгі прыходзілі міліцыянты, якія цікавіліся, дзе «хаця б прыкладна знаходзіцца Карач». Пытанні гэтыя задавалі ў рамках «нейкай крымінальнай справы».

Зрэшты, сама Вольга кажа, што жыве ў Беларусі. Ва ўжо згаданым інтэрв'ю «Народнай волі» яна прызнавалася, што нядаўна на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску выпіла тры кубачкі кавы і шклянку соку за 280 тысяч рублёў. Блогеры адразу засумняваліся, ці бываюць такія цэны ў беларускай сталіцы.

**Зміцер Панкавец**

# Рух «За Свабоду», «Гавары праўду» і Партыя БНФ дамовіліся аб кааліцыі

«Такога кроку дагэтуль беларуская апазіцыя не рабіла», — сказаў лідар «Гавары праўду» Уладзімір Някляеў на прэс-канферэнцыі ў Мінску 20 мая. Сумнеўная заява: за гады кіравання Лукашэнкі якіх толькі кааліцый не было.

Някляеў кажа, што партнёры змогуць знайсці адказ і на пытанне аб тым, хто будзе адзіным кандыдатам у прэзідэнты на выбарах-2015.

«Гэта будзе чалавек, які прадстаўляе не толькі апазіцыю, але і большую частку насельніцтва, што выступае за перамены», — заявіў Някляеў. Перад гэтым у інтэрв'ю БДГ Някляеў казаў, што «Гавары праўду» займаецца пошукам «новага твару».

Супрацоўніцтва разлічана прынамсі на тры найбліжэйшыя выбарчыя кампаніі — выбары ў мясцовыя саветы, прэзідэнцкія і парламенцкія выбары.

Аляксандр Мілінкевіч кажа: «Не трэба баяцца, што тут сядзіць не ўся апазіцыя». Да кааліцыі не далучыліся Аб'яднаная грамадзянская партыя Анатоля Лябедзькі і Хрысціянская дэмакратыя Паўла Севярынца, якія маюць шмат прыхільнікаў.

Як растлумачыў Някляеў, «у нас ёсць дамоўленасці і з іншымі арганізацыямі, але не ў такім аб'ёме. Але мы чуем усе іх прапановы — і адносна выбару адзінага кандыдата, і адносна фарматаў удзелу ў мясцовых выбарах», — падкрэсліў палітык.

Старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч выказаў упэўненасць у тым, што «разам будзе лягчэй адстойваць як палітычныя мэты кожнай арганізацыі, так і нацыянальныя інтарэсы Беларусі».

**ЗП; БелаПАН**



На прэзентацыю Някляеў і Дзмітрыеў прыйшлі з дарагамі макбукамі.

## Сцісла

### ТБМ сабрала 20 мільёнаў

Ад 1 красавіка рэзка ўзраслі цэны на арэнду, таму Таварыства звярнулася да людзей і арганізацый з просьбай аб падтрымцы.

### Лобаў сустрэўся з маці і братам

Палітвязень Эдуард Лобаў у Івацэвіцкай калоніі меў доўгатэрміновае спатканне (трое сутак) з маці і братам. Марына Лобава кажа: «Сын на хуткае вызваленне не спадзяецца».

### Латушка — пасол у Іспаніі і Партугаліі

... па сумяшчальніцтве. Асноўнай ягонай пасадай будзе заставацца праца ў Францыі. Павел Латушка — былы міністр культуры.

### З Нью-Ёрка ў Мазамбік

Намеснік міністра замежных спраў Беларусі Валянцін Рыбакоў 20–23 мая знаходзіцца з візітам у Мапуту (Мазамбік). Перад гэтым ён быў на пасяджэнні ААН у ЗША.

### Марын Лё Пен зламала хрыбет

Яна звалілася ў пусты басейн. Пра траўму палітыка паведаміў яе бацька і заснавальнік партыі Нацыянальны фронт Жан-Мары Лё Пен. Паводле яго слоў, у дачкі пашкоджана крыжавая костка і яна не можа хадзіць.

**ЗП**

# Камароўскі рынак удвая даражэйшы за беластоцкі

Чарэшню ў Мінску прадаюць за **150 тысяч рублёў** — і купляюць жа!

Аўторак, а на сталічным Камароўскім рынку ўсё адно свет народу. Мінчукі прыцэньваюцца да свежай садавіны і гародніны, аднак купляюць патроху — пачатак сезона, таму цэны кусаюцца. За кілаграм узбекскай чарэшні просяць 150 тысяч рублёў. Чаму так дорага? «Паглядзіце, якая сакавітая! Усе бяруць і не журацца, — прадавачка прапануе пачаставацца. — Але ёсць і па 100 тысяч. Вам якой насыпаць?» Рушу ў пошуках чарэшні далей. На суседнім шэрагу можна знайсці яе па 80 тысяч рублёў. Але танней — ніяк. Зрэшты, і ў беларускіх гіпермаркетах недарагой чарэшні пакуль не знайсці. Вось толькі на рынку ў Беластоку на мінулых выхадных можна было набыць чарэшню і па 55 тысяч...

Падобная сітуацыя і з клубніцамі. Ягады, прывезеныя з Грэцыі, на Камароўцы ўдалося набыць толькі за 35 тысяч рублёў. Айчынныя клубніцы пакуль значна даражэйшыя, аж да 70 тысяч. «Затое без усялякай хіміі», — хваліць свой тавар прадавачка. Праз некалькі тыдняў клубніцы патаннеюць як мінімум удвая. У Беластоку ж за грэцкія ягады папросяць 20—25 тысяч рублёў.

Зусім прыкрая сітуацыя з персікамі. Цана ў Мінску — 50 тысяч рублёў, у Беластоку — каля 25 тысяч.

Затое ў Беларусі недарагія бананы. На Камароўцы яны прадаюцца па 12 тысяч, а ў «Еўраопце» можна знайсці і па 9900. У Беластоку цэны нават крыху большыя.

**Ягор Марціновіч**




**Праз некалькі тыдняў на рынках з'явяцца беларускія клубніцы.**

## Хто не прыватызуе кватэраў, праз год будзе арандаваць іх у дзяржавы

**Новы Жыллёвы кодэкс** уступіў у сілу вясной.

Ён прадугледжвае, што жыхары непрыватызаванага жылля павінны плаціць дадатковыя грошы за карыстанне памяшканнем. Тарыфы прыняць не паспелі, таму ў жыроўках беларусаў новых радкоў не з'явілася.

Аднак гэтая сітуацыя зменіцца. Па словах міністра ЖКГ Андрэя Шораца, на прыватызацыю будзе дадзены год. Кватэры, якія жыхары не захочуць ці не змогуць прыватызаваць, будуць пераведзеныя ў статус камерцыйнага жылля. Праект адпаведнага ўказа знаходзіцца ў стадыі накіравання кіраўніку дзяржавы.

Ва ўсёй Беларусі застаюцца непрыватызаванымі 400 тысяч кватэр — кожная сёмая. Колькі давядзецца заплаціць, каб канчаткова перапісаць жытло на сябе? Па дакладныя падлікі трэба звяртацца ў райвыканкам. Формула складаная, канчатковая цана залежыць ад месца знаходжання кватэры, плошчы і часу будаўніцтва. Напрыклад, прыватызацыя двухпакаёўкі ў спальным раёне Мінска цяпер каштуе каля $10 тысяч.

Не ўсё так страшна — грошы можна будзе плаціць у 40-гадовую растэрміноўку. Рэшта будзе паступова з'ядацца інфляцыяй. Аднак 10% ад кошту ўсё ж давядзецца заплаціць адразу. Дый кватэру падчас выплаты прадаваць будзе нельга.

Кошт арэнднага жылля ў Мінску пакуль невысокі — каля $100 за двухпакаёўку. Але камунальныя паслугі ў такіх кватэрах плаціцца па поўным тарыфе. Зрэшты, кошт дзяржаўнага арэнднага жылля можа падрасці. Такую думку выказаў Аляксандр Лукашэнка. «Арэнднае жыллё не можа быць таннейшым за 50% рынкавага кошту», — заявіў ён некалькі дзён таму. Прыватныя двухпакаёўкі ў спальных раёнах сталіцы зараз можна арандаваць за $300—400.

**ЯМ**

**Лукашэнка: Арэнднае жыллё не можа быць таннейшым за 50% рынкавага кошту**

## Спыненне «растваральнага бізнэсу» прывяло да абвалу ў гандлі Беларусі з Еўрасаюзам

Экспарт падае, **імпарт расце**.

Паводле звестак Белстата, тавараабарот з краінамі Еўрасаюза ў студзені–сакавіку 2013 знізіўся на 26% і склаў $5,6 мільярда. Прычым экспарт паменшаў на 42%, а імпарт вырас на 26%.

Беларусь па-ранейшаму татальна залежыць ад паставак расійскай сыравіны і продажу беларускіх тавараў на расійскім рынку. На Расію прыпадае аж 48,4% ад усяго аб'ёму тавараабароту.

Наступнымі па значнасці гандлёвымі партнёрамі з'яўляюцца краіны, у якія Беларусь экспартуе нафту і нафтапрадукты, выробленыя з расійскай сыравіны: Нідэрланды — 8,6%, Украіна — 7,5%, Германія — 6%. Толькі ў канцы спіса аказваюцца эканамічны гігант Кітай — 4,3% — і вялікі сусед Польшча — 2,6%.

Рэзка знізіўся экспарт у Латвію — на 87% да $0,15 мільярда. Менавіта праз гэтую краіну ажыццяўляўся рээкспарт нафты пад выглядам растваральнікаў у 2012.

Расія палічыла яго парушэннем міждзяржаўных дамоўленасцяў і спробай выхаду ад мытных плацяжоў і прымусіла спыніць яго ад жніўня мінулага года.

**Сяргей Гезгала**

### Сцісла

**Квадратны метр у Мінску — $1600**

Паводле звестак партала Realt.by, кошт прапановы квадратнага метра ў сталіцы дасягнуў $1597 і працягвае расці. Рэальны кошт угодаў меншы на 3—4%, аднак таксама паўзе ўгару. За апошні год двухпакаёўка плошчай 50 м² у спальным раёне Мінска падаражэла на $13 тысяч.

**Праезд даражэе да 1700—2000 рублёў**

Пакуль што праезд у грамадскім транспарце Мінска каштуе 1700 рублёў, аднак вырасце да канца месяца. Папярэдняе падаражанне адбылося ў кастрычніку 2012. Істотнае павелічэнне тарыфаў — адна з умоваў для атрымання чарговага крэдыту ЕўрАзЭС. У рэгіёнах жа кошт узрасце да 1700 рублёў.

**Гейтс не пабядней**

За год заснавальнік кампаніі Microsoft Біл Гейтс разбагацеў да $72,7 мільярда і абагнаў на паўмільярда мексіканскага магната арабскага паходжання Карласа Сліма. Той быў у лідарах апошнія гады. Гейтс ачольваў рэйтынг самых багатых людзей, складзены агенцтвам «Блумберг», з 1995 да 2008.

**«Крышталь» у топе гарэлак**

Гарэлка аднайменнага мінскага завода ўвайшла ў топ-7 гарэлак, што найлепш прадаюцца ў свеце. Летась у брэнда было дзявятае месца. Прырост вытворчасці на 12% дазволіў узняцца вышэй.

**Грамадскі транспарт перавядуць на газпрамаўскае паліва**

Беларускі грамадскі транспарт пачнуць запраўляць газаматорным палівам. Гэта прадугледжана праграмай урада Беларусі і «Газпрама». Расійскі гігант даў гарантыі, што кошт гэтага паліва на працягу 10 гадоў будзе не больш за 50% ад кошту дызпаліва. Пад газаматорнае паліва створаць запраўкі ды іншую інфраструктуру.

**У Лельчыцах пабудуюць чыгунку**

Падчас эканамічнага форума, які адбыўся ў Гомелі, былі падпісаныя дамовы аб рэалізацыі шматмільённых праектаў. Яны датычацца развіцця Гомельскага прамысловага парка «Палессе-Лельчыцы». Сярод канкрэтных праектаў — будаўніцтва шчэбеневага завода пад Лельчыцамі, цэха па перапрацоўцы бройлераў у Буда-Кашалёўскім раёне, некалькіх свінакомплексаў, а таксама чыгункі праз Лельчыцы.

**Наямося**

У Круглянскім раёне налета пабудуюць прамысловую ферму на 1 тысячу трусаматак. Таксама плануецца адкрыццё цэха па перапрацоўцы мяса і скурак трусоў.

**ЯМ**

# Прыгоды расейцаў у Мінску

**У Расіі на майскія святы былі вялікія выхадныя. Фактычна, краіна гуляла ад 1 да 13 мая. Многія суседзі падаліся на канікулы ў Беларусь.**

### «Гэтых грошай у мяне навалам пакуль што»

Складана было набыць квіткі з Масквы да Мінска яшчэ ў канцы красавіка — усе раскупленыя. Не заўважыць расейцаў у Мінску і іншых гарадах краіны было складана.

Госці адразу далі пра сябе знаць. Машыны з расійскімі нумарамі паркаваліся на пешаходных зонах і бардзюрах. Расейцамі кішэлі кавярні і супермаркеты. «Гэээтых грошай у мяне навалам пакуль што», — пачуў блогер Віктар Малішэўскі ў адным з магазінаў.

«Расейцаў была большасць, — кажа Вольга, адміністратар гатэля ў Нясвіжы. — Бранiравалі розныя нумары: ад стандартных да віп-аў. Самы дарагі — прэзідэнцкія апартаменты, якія каштуе 1 850 000 рублёў, — таксама быў заняты суседзямі з ўсходу».

### «Турысты сталі больш выхаваныя»

«Я не вельмі люблю працаваць з расейцамі, бо яны заўсёды ставяцца да гаспадароў як да прыслугі, — расказвае гаспадыня аграсядзібы «Родны кут» Юлія Бука. — Праўда, адпачываў неяк турыст з Масквы, трэнер дзіцячай каманды. На Новы год ён даслаў нам паштоўку на беларускай мове, казаў, што вельмі ў нас спадабалася».

Андрэй, уладальнік сядзібы «Зарачаны» пад Пухавічамі, кажа, што апошнім часам турысты змяніліся. Маўляў, гэта ўжо не тыя расейцы, якія прыяджалі колькі гадоў таму, яны сталі больш выхаваныя.

Гаспадары сядзібы «Лясная паляна» ля Астрашыцкага Гарадка таксама заўважаюць, што турысты ў гэты раз трапіліся вельмі пазітыўныя. Адна пара абавязкова збіралася на 9 мая ўшанаваць памяць загінулых і паехала ўскладаць кветкі да танка ў Астрашыцкі. «Расейцы глядзяць перш за ўсё, каб было камфортна, лазня, часта хочуць на конях пакатацца, сталіцу паглядзець. Казалі, вельмі падабаецца грамадскае харчаванне, бо тут трошкі таней, чым у іх».

### «Чэкі «плавяцца» нулямі»

«У нас з пачатку мая пабывала даволі разнапланавая публіка, — каментуе афіцыянт бара «Бяссоніца» Юрый. — Ёсць вельмі культурныя госці, якім падабаецца адпачываць у Мінску. А некаторыя паказваюць, што яны з Расіі, і таму могуць быць гаспадарамі. Больш, напэўна, нахабных людзей, якія хваляцца тым, што яны маюць шмат грошай.

«Бяссоніца» — установа даражэйшая за сярэднюю, таму і ў мінскіх наведвальнікаў чэкі «плавяцца» нулямі. Увечары ж рахункі прыкладна аднолькавыя, але на абеды расейцы выдаткоўваюць значна большыя сродкі. Мінчукі абедаюць больш сціпла. Часцей замаўляюць гародніну і садавіну, удзень не п'юць алкаголь. Расейцы ж дазваляюць сабе больш ва ўсім.

Дзіўна, што ў месцы, дзе вялікі выбар напояў на любы густ, замаўляюць часцей гарэлку і піва. У мінчукоў жа зараз вельмі папулярныя віскі і ром».

### «Фота з апошняй ў Эўропе дыктатуры»

Што тычыцца культурнай праграмы, то госці з Расіі цікавіліся ў першую чаргу славутасцямі сталіцы: наведвалі Плошчу Перамогі, Курган Славы, Музей авіяцыйнай тэхнікі ў Баравой, фатаграфаваліся ля Нацыянальнай бібліятэкі. Ездзілі ў Мірскі і Нясвіжскі замкі, а таксама музей-сядзібу Дудуткі.

Шмат хто цікавіўся і ваенным мінулым краіны — наведвалі мемарыяльны комплекс Хатынь, Лінію Сталіна, Брэсцкую крэпасць. Для аматараў падарожнічаць на машыне ўлюбёным месцам стала Белавежская пушча.

У інстаграме хэш-тэг (ключавое слова) #minsk быў запоўнены партрэтамі расейцаў на фоне славутасцяў беларускай сталіцы. Адзін карыстальнік папулярнай сацсеткі выклаў фота сябе любімага у Траецкім прадмесці і неўзабаве дадаў каментар: «У апошняй еўрапейскай краіне з дыктатурай, але для сталічнага горада тут вельмі чыста і ціха».




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Экскурсавод: Маладыя расейцы культурныя і прыемныя. А вось 40-гадовыя расейцы з грашыма — прыклады непавагі, пантоў і хамства

### «Пыталі, чаму амаль не чуваць мовы»

Мінскі экскурсавод Андрэй Макаёнак, які вандраваў па сталіцы з расейскімі турыстамі, кажа, што госці паводзілі сябе даволі культурна і сціпла.

«Першай маёй групай былі студэнты з Масквы, — кажа Андрэй. — Даволі прыемныя людзі, якія цікавіліся нашай гісторыяй. З павагай ставіліся да ВКЛ, майго негатыўнага стаўлення да спадара Суворава і г.д. Жыхары расейскай сталіцы нават выказалі спачуванне, што Мінск пераўтвараецца ў нейкую маленькую Маскву: яны вельмі «красамоўна» апісвалі новы «дом Чыжа», што ў Траецкім, а таксама хмарачос, што дабудоўваецца на Нямізе. Пыталі, чаму амаль не чуваць мовы, ставілі ў прыклад Кіеў.

Другімі былі студэнты з Тулы. Вельмі адрозніваліся ад масквічоў. Мінск іх уразіў, казалі: «Амаль як у Еўропе». Не зразумелі прыгажосці нашай Нацыянальнай бібліятэкі. Былі сярод іх і асобы, якія ўсё ж спрабавалі неяк паздзекавацца з мовы, але ж гэты адзіны выпадак і казаць пра нейкую павальную непавагу нельга».

З гандлёвых цэнтраў больш за ўсё расейцы ўпадабалі «Сталіцу». Сувеніры набывалі і ў новых крамках, што на Саборнай Плошчы. Цікавіліся пераважна тымі рэчамі, што былі выкананыя на беларускай мове.

«Магу сказаць, што тое пакаленне расейцаў, што расце цяпер і што прыязджае да нас, — гэта пераважна людзі культурныя і прыемныя, — падводзіць вынік Андрэй Макаёнак. — Адваротныя прыклады — гэта тыя, каму ўжо за 30—40, якія маюць грошы. Такія людзі прыклады непавагі, пантоў, хамства і нахабства. Прытым жанчыны сябе паводзяць значна горш за сваіх спадарожнікаў-мужчын».

**Настасся Храловіч**

**Расейцы пішуць**

(каментары узятыя з сацсетак, форумаў у інтэрнэце):

«У Мінску мы не ўбачылі ніводнага кіёска з півам, цыгарэтамі, ніякіх забягалавак, тыпу шаўрмы, хот-дога і іншых гадасцяў. Усё проста і як быццам 20-25 гадоў таму пры Саюзе. На будынках серп і молат з мазаікі, прасторныя ходнікі і свабодныя кавалкі зямлі засеяны травой і кветкамі, а не тратуарнай пліткай. Ніякіх выродлівых шкляных будынкаў у 40—50 паверхаў. І што б там ні казалі пра беларусаў, я скажу так: вельмі мілыя, гасцінныя і чамусьці ўсе з выдатным пачуццём гумару людзі».

«Прыгожыя куткі прыроды ля азёр, якія нікім не захопленыя. Бяры і будуй сабе домік. У нас усё ўжо расцягнута на лапікі і знайсці нешта для сябе складана. Я б да вас пераехаў на пенсіі, калі захаваеце такі запаведнік да гэтага моманту».

«Вельмі спадабаўся стан дарог, чысціня ў гарадах, якасць прадуктаў (асабліва піва). Усюды працуюць казіно і аўтаматы. Бензін, які купляецца ў нас, каштуе танней, чым у Расіі, гэта як?! У Мінску ўсе едуць 60 кіламетраў у гадзіну, амаль ніхто не парушае правіл. Над палямі буслы лётаюць. Карацей кажучы, для заМКАДыша, які працуе ў Маскве, — культурны шок».

«Насамрэч у Беларусі спадабалася амаль усё. Акрамя расейцаў з маскоўскімі нумарамі — вось ужо сапраўды дзікія людзі».

**Беларусы пішуць:**

«Учора прастаяў у «Гіпа» на Лагойка 30 хвілін у чарзе. З дзіцем. Расейцы з каляскамі бралі гарэлку і каўбасу (мабыць, аўтобус турыстычны). Цікава, навошта?»

«Калі ў госці — то заўсёды рады. Адчувайце сябе як дома, але не забывайце, што вы ў гасцях».

«Ды якая розніца, хто ёсць хто — браты, сваякі і іншае. Не трэба глядзець на гасцей як на ворагаў. Дзякуючы турыстам будзе развівацца і наша краіна. Вось толькі сапраўды хочацца ад расейцаў больш павагі. Няхай у нас іншае жыццё, але гэта наша жыццё. І краіна наша завецца БЕЛАРУСЬ».

«Гаспадары прыехалі аглядаць свой паўночна-заходні край».

«Няхай едуць. Ужо яны дакладна падтрымаюць лозунг «Купляйце беларускае!»

# «Еўрабачанне»: выйграюць не тыя, хто фальсіфікуе

**У Швецыі гэты конкурс суперпапулярны. Бо селекцыю талентаў забяспечвае сумленны адбор.**

У Швецыі праходзіў Чэмпіянат свету па хакеі і на ім «Трэ крунур» здабылі чарговы тытул, але найбольшую ўвагу шведскіх гледачоў прыцягнула музычнае спаборніцтва.

«Еўрабачанне» стала нечым кшталту нацыянальнага спорту ў Швецыі, мяркуе Фрэдрык Вадстром, журналіст аддзела культуры Шведскага радыё. Гэта толькі запісныя беларускія інтэлектуалы думаюць, што нікому гэты конкурс у Еўропе нецікавы.

«Еўрабачанне» суперпапулярнае ў Швецыі», — пацвярджае беларус Андрэй Катлярчук — гісторык, які выкладае ва ўніверсітэце Содэторн (Стакгольм). Мільёны шведаў з года ў год сочаць спачатку за мясцовым конкурсам талентаў — «Мелодыфестывален» (аналаг беларускага «Еўрафэсту»). На ім выбіраюць шведскага ўдзельніка конкурсу. А потым — за агульнаеўрапейскім музычным чэмпіянатам.

Нацыянальны адбор з'явіўся ў 1959, амаль адначасова з «Еўрабачаннем». А з канца 1990-х шведы пачалі ўплываць на яго вынікі з дапамогай тэлефанаванняў. Верагодна, дэмакратычнасць працэдуры — адзін з чыннікаў папулярнасці конкурсу, які глядзяць 4 мільёны гледачоў, каля паловы насельніцтва Швецыі. А вось беларусы не заўсёды ўпэўненыя, што іх галасы правільна лічаць. Скандалы з адборам на «Еўрабачанне» набывалі нацыянальны маштаб.

«Гэта вар'яцтва! Магу запэўніць, нідзе ў Еўропе няма такой увагі да «Еўрабачання», як у Швецыі», — кажа Вадстром.

Самая вядомая гісторыя поспеху Швецыі ў «Еўрабачанні» — выступ гурту «АББА» ў далёкім 1974 з песняй «Ватэрлоа», пасля чаго чацвёрка стала сусветна вядомай.

«Можа, таму ў шведаў застаецца ўражанне, што конкурс важны для артыстаў і для краіны. Маўляў, спачатку заваюем «Еўрабачанне», а потым увесь свет», — мяркуе журналіст.

На думку Андрэя Катлярчука, конкурс стаў часткай нацыянальнай поп-культуры: «Усе разам, сем'ямі глядзяць спачатку нацыянальны адбор, а потым сам конкурс. Вырасла некалькі пакаленняў з падобнай звычкай. А ў постсавецкіх краінах — гэта новая з'ява».

І нават у акадэмічным асяроддзі абмяркоўваецца, напрыклад, чаму краіны былога СССР галасуюць адна за адну, чаму Латвія дае высокія балы Расіі, ці чаму шведы летась не далі ніводнага бала Даніі.

Вядома, што Стэфан Эрыксан, былы пасол Швецыі ў Беларусі, таксама вялікі фанат «Еўрабачання».

А выступ Беларусі Катлярчук лічыць непераканаўчым: «Спаднічка, як у 14-гадовай, жудасная англійская, уся стылістыка на нулі. Першае, што я падумаў — ізаляцыя б'е па ўсім, у тым ліку па поп-культуры», — кажа гісторык. А ў якасці станоўчага прыкладу прыводзіць літоўца: і песня, і выгляд — густоўныя.

Беларуска Алена Жук, якая жыве ў Швецыі і працуе эканамістам, крытычна ставіцца да «Еўрабачання»: «Многія высокаадукаваныя людзі, якія цэняць якасную музыку, знаць нічога не хочуць пра «Еўрабачанне», саромеюцца яго».

Тыповыя фаны конкурсу — маладыя дзяўчаты, людзі без вышэйшай адукацыі ды... мужчыны нетрадыцыйнай арыентацыі, адзначае дзяўчына. Пры гэтым дадае, што яе калега па працы мае іншае меркаванне.

Муж Алены, швед, мяркуе, што «Еўрабачанне» глядзяць з-за шоу, сама музыка мала каму даспадобы.

«Магчыма, папулярнасці конкурсу дадае тое, што артысты выбіраюць розныя стылі музыкі...І думаю, што шведам цікава паглядзець на краіны, якія столькі год былі закрытымі — такія, як наша ды іншыя краіны Усходняй Еўропы».

Пасля сёлетняга «Еўрабачання» на кантыненце разгарэліся попвойны. Праўда, не на ўсім, а на прасторы былога СССР. Расія мае прэтэнзіі да Азербайджана: там гледачы галасавалі за Расію, а ўрэшце краіна не дала былой метраполіі ніводнага бала. У сваю чаргу, літоўцы раскапалі, што азербайджанскія структуры арганізоўвалі падстаўное галасаванне за свайго спевака прынамсі ў 15 краінах Еўропы. А кіраўнік Беларусі назваў конкурс палітызаваным і фальсіфікаваным у сувязі з тым, што Расія не дала ніводнага голасу заслужанай артыстцы Рэспублікі Беларусь і пратэжэ сенатара Шакуціна Алёне Ланской.

У адрозненне ад Азербайджана ці Беларусі, у Швецыі проста не існуе самога паняцця фальсіфікацый. Няма такой праблемы — ні на выбарах, ні на «Еўрабачанні». Каго адзін раз западозраць у фальшаванні, у таго няма будучыні — ні на палітычнай сцэне, ні на канцэртнай. Людзі ад такога чалавека на аўтамаце адварочваюцца. І сумленны адбор забяспечвае селекцыю талентаў.

Нараканні ж беларусаў на фальсіфікацыю гучаць двухсэнсоўна. Хоць бы таму, што на папярэднім «Еўрафэсце» фальсіфікацыі на карысць той самай Ланской былі афіцыйна прызнаныя. У Скандынавіі кар'ера такой спявачкі і яе апекуноў была б закончаная. У Беларусі ж ёй купілі песню за 35 тысяч далярaў (гадавая зарплата 10 выкладчыкаў музычнай школы) і праз год такі адправілі ў кароткай спадніцы са стразамі на заваёву кантынента.

**Аксана Рудовіч, Сяргей Гезгала**



20-гадовая датчанка Эмілі дэ Форэст перамагла з песняй Only Teardrops («Толькі кроплі слёз»), набраўшы ў фінале 281 бал.



Сукенка Ланской аздобленая стразамі Swarovski. Каштуе такі цуд каля 10 тысяч еўра, а важыць больш за 5 кілаграм.

**Расія не дала ніводнага бала Беларусі**

Алёна Ланская ў фінале была 16-й.

Украіна дала Беларусі 12 балаў, столькі ж беларусы далі ўкраінцам (12), прычым Расія ў беларускім галасаванні толькі 3-я (8 балаў), 10 балаў беларусы далі Азербайджану.

12 балаў Беларусі паставіла Украіна, 7 — Азербайджан, па 5 — Грузія, Арменія, Македонія, 4 — Малдова, 3 — Ізраіль і Чарнагорыя, 2 — Мальта, 1 — Грэцыя і Літва.

Расія не дала ніводнага бала Беларусі.

**Лукашэнка пра «Еўрабачанне»: фальсіфікацыя**

«Я ведаю, Алёна, тваю рэакцыю на выныкі галасавання ў Расіі. Можаш у свой актыў запісаць 12 балаў, не менш, — сказаў Лукашэнка, звяртаючыся да Ланской. — Гэта сведчыць аб тым, наколькі падобны конкурс не проста палітызаваны, а наколькі ён фальсіфікаваны. Больш за тое, хто сочыць за сродкамі масавай інфармацыі, убачылі на прыкладзе адной з краін — там ужо разгарэўся цэлы скандал з нагоды фальсіфікацыі вынікаў галасавання. Заўсёды трэба спакойна ўспрымаць падобныя вынікі».

**Шведскае «Еўрабачанне» ў лічбах**

**Швецыя ўдзельнічала** ў «Еўрабачанні» 52 разы. За гэты час перамагала 5 разоў (апошні — у 2012 з песняй «Эйфарыя» ў выкананні Ларын). Адпаведна, столькі ж разоў была арганізатарам конкурсу: двойчы ў Стакгольме і Мальмё і адзін раз — у Гётэборгу.

**Швецыя 19 разоў уваходзіла ў топ-5 фіналістаў** і 35 разоў — у топ-10. Да 2010 гэта была адна з нешматлікіх краін, якія заўсёды траплялі ў фінал.

**У 2013 аўтарамі песень пяці краін-удзельніц «Еўрабачання»** (Грузія, Нарвегія, Нідэрланды, Расія і Фінляндыя) з'яўляліся шведы.

**Правядзенне «Еўрабачання» ў Мальмё каштавала 24 мільёны** доляраў, што ў некалькі разоў менш, чым у мінулым годзе ў Азербайджане — каля 100 мільёнаў.

**Азербайджан купіў 2-е месца на «Еўрабачанні»?**

Літоўскія СМІ выкрылі банду, якая дзейнічала ў многіх краінах. Скупялі галасы прадстаўнікі Азербайджана, якія прапаноўвалі студэнтам 20 еўра ўзнагароджання, а таксама адмысловыя сім-карты з грашыма на рахунках. У дзень галасавання трэба было дасылаць смс-кі за азербайджанскага выканаўца, які ў выніку заняў другое месца.

# Праўда Аляксея Балабанава

«Вось скажы мне, амерыканец, у чым сіла? Хіба ў грошах? Вось і брат кажа, што ў грошах. У цябе шмат грошай, і што? Я вось думаю, што сіла ў праўдзе, у каго праўда — той і мацнейшы», — гэта фраза Данілы Багрова з фільма «Брат» стала адной з самых пазнавальных на прасторах былога СССР канца 1990-х.

Акцёра Сяргея Бадрова, які сыграў Данілу, ужо больш за дзесяць гадоў няма ў жывых. Ён загінуў пад лавінай у горнай цясніне Паўночнай Асеціі. Цяпер памёр рэжысёр і сцэнарыст «Братоў» — Аляксей Балабанаў, адзін з самых любімых жыхарамі Расіі кінамайстроў.

Балабанаву было ўсяго 55 гадоў. Прычына смерці — рак. Пахаваюць яго на Смаленскіх могілках Санкт-Пецярбурга.

Балабанаў быў унікальным рэжысёрам, яму ўдавалася здымаць шматслойныя фільмы, якія прымаліся на ўра як інтэлектуаламі, так і гопнікамі. Калі казаць пра «Брата», то здавалася, што такія фільмы ў постперабудовачнай Расіі здымалі сотнямі — бандыты, наркаманы, беспрасветнасць правінцыі, перастрэлкі. Аднак за гэтымі абавязковымі атрыбутамі Балабанаву ўдалося знайсці тыя ноткі, каб кіно стала сімвалам эпохі.

Найперш праз харызматычнасць Сяргея Бадрова, які выдатна ўжыўся ў ролі ветэрана першай чачэнскай вайны, сучаснага рускага багатыра. Ён просты як пяць капеек, крыху дзівак, стрыманы ў пачуццях і, вядома, філосаф.



«Вось ты гаварыў, што горад — гэта сіла, а тут слабыя ўсе», «На вайне такую музыку не слухаюць, яна несапраўдная» (пра папсу), «Хто брата кране — завалю». Бадроў простымі словамі вучыў любіць сям'ю і радзіму. Хай і граючы часам на ксенафобскіх настроях расійскага грамадства.

Па-другое, адной з фішак «Братоў» стала выдатнае музычнае суправаджэнне. «Наўтылус», «Смысловыя галюцынацыі», «Бі-2», «Акіян Эльзы», Ірына Салтыкова.

Хаця ўзяцца за «Брата» Балабанава прымусіў недахоп сродкаў на фільм «Пра вырадкаў і людзей», які заўсёды лічыў сваёй галоўнай удачай. Пачынаў жа Балабанаў з экранізацыі «Замка» Кафкі.

Балабанава абвінавачвалі ў рускім нацыяналізме, бо ягоныя героі ненавідзяць «чарнажопых, амерыкосаў, хахлоў і прыбалтаў». «Гэта абсалютна беспадстаўна. Я проста адлюстроўваю стан нашага народа», — казаў рэжысёр у адным з інтэрв'ю.

Іншыя казалі, што Балабанаў «ачарняе савецкае мінулае», калі выйшаў не менш скандальны «Груз 200». У многіх кінатэатрах гэты жорсткі фільм быў зняты праз пару дзён паказу. Фільм не рэкамендавалі для паказу на тэлебачанні. У аснове фільма — жыццё расійскай правінцыі пад канец існавання СССР.

«Я зусім не разумею, калі кажуць, што мая тэма — гвалт. Тэма ўсяго кіно — гвалт, бо глядач любіць, калі ў персанажа ўсаджваюць пяцьдзясят куляў, пасля чаго ён закурвае і ідзе помсціць. Так у жыцці не бывае, і гледачу цікава. Ніякай спецыяльнай і асабістай цікавасці да гвалту ў мяне няма», — казаў Балабанаў.

Рэжысёр не вельмі любіў публічнасць. Не ўмеў глядзець у вочы. А ў інтэрв'ю заўсёды паўтараў, што здымае толькі праўду. Балабанаў планаваў яшчэ зняць кіно пра Сталіна-тэрарыста, збіраўся пачаць працу ўжо ўвосень.

**Зміцер Панкавец**

## Аляксей Балабанаў. Правілы жыцця

• **У мяне няма звыклага кола зносін**, я рэдка выходжу з хаты, не падтрымліваю старых знаёмстваў і трываць не магу пустых размоваў.

• **Я вырас у прамысловым цэнтры**, дзе не існавала ніякай іншай логікі, акрамя як «усе пабеглі, і я пабег». Адзінае, чым я адрозніваўся ад астатніх, — я любіў рабіць бомбы з набораў «Юны хімік». Я ведаў шмат розных саставаў, змешваў і падрываў. Нашто? Бо гэта частка паляўнічага інстынкту. Дзеля задавальнення.

• **Я ніколі не галасаваў.** Раней на выбары гвалтоўна ганялі, але я кідаў пусты аркуш.

• **У мяне дрэнная памяць** на ўсё сучаснае: ні імёнаў, ні назваў, нічога не памятаю.

• **У кожнага рэжысёра ёсць толькі адзін добры фільм.** Мне «Пра выродкаў і людзей» падабаецца.

• **Данэлія — добры рэжысёр**, ён ніколі не скатваецца ў гайдаеўскую камедыю. Я не люблю такое кіно, калі ўсе крычаць і бегаюць.

• **Я не лічу кіно мастацтвам.** Мастацтва — гэта калі чалавек нешта робіць адзін. Мастак стварае мастацтва, пісьменнік стварае мастацтва, але калі ты залежыш ад пяцідзесяці чалавек — якое гэта пад халеру мастацтва?

• **Ніколі не высвятляў сваіх адносін з Богам.** Мне, у адрозненне ад Тэры Гіліяма, і так усё зразумела.

• **Ад навакольнага свету я ратуюся ў сябе ў пакоі.** Саджуся і займаюся сваімі справамі. Дома мяне амаль ніхто не чапае, дома мяне ўжо ўсе ведаюць.

• **Я не ведаю**, добры я чалавек ці дрэнны. Не мне судзіць. Памру — даведаюся.

# Нінэль Шчасная перажыла сваю дачку



Знакамітая беларуская мастачка памерла на 80-м годзе жыцця.

Нарадзілася яна ў Полацку. У 1961 Нінэль скончыла Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна ў Ленінградзе.

Бацька Нінэль — Іван Шчасны — у 1930-я выкладаў беларускую мову ў Полацкім універсітэце. Яго папярэдзілі аб пагрозе арышту, і сям'я ўцякла ў Смаленск, дзе прайшлі першыя гады жыцця Нінэль. Калі разгул тэрору мінуў, Шчасныя вярнуліся ў Мінск.

Некалькі гадоў таму ад раку памерла дачка Нінэль — таксама мастачка Лада Шчасная.

«Некалі Нінэль Шчасная намалявала карціну «Дзяўчына і сланечнік» і адразу ўсе закахаліся і ў яе, і ў ейны талент, — кажа мастак і пісьменнік Адам Глобус. — Ёсць такая легенда, што Шчасная была вельмі папулярнай мастачкай у Японіі. Не ведаю, ці праўда, аднак японцы дакладна куплялі яе карціны. Кожную сераду яна запрашала людзей мастацтва да сябе ў майстэрню. Калі ёй споўнілася пяцьдзясят, яна сказала: «Я так мала паспела, відаць таму, што ў мяне заўжды шмат гасцей». Амаль што ўсе творчыя людзі прайшлі праз гэтыя «серады». Таксама вельмі прыгожая традыцыя, не ведаю, ці робіць хто так цяпер».

**Юрась Ускоў**

# Уладзімір Сулкоўскі ўвекавечыў сваё Палессе

Мастаку было 63 гады. Прычынай смерці стала анкалогія, з якой ён змагаўся апошні год. Медыкі не адразу паставілі слушны дыягназ.

Уладзімір Сулкоўскі нарадзіўся ў Брэсце ў 1950 годзе. Але дзяцінства прайшло ў вёсцы, дзе яго выхоўвалі бабуля і дзядуля. Палессе, яго жыхары, фальклор і гістарычная спадчына сталі вядучымі тэмамі ўсёй творчасці.

Ён быў сябрам творчай суполкі «Пагоня». Летась у Мінску ў Палацы мастацтваў прайшла ягоная вялікая персанальная выстава.

Сулкоўскі быў не толькі знаным пейзажыстам, але і партрэтыстам. Стварыў партрэты Кастуся Каліноўскага, Рыгора Барадуліна, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

«Мы сябравалі з часоў інстытута. Я ў яго аднойчы спытаў, чаму ён сядзіць як загнаны ў кут мастак часоў Сярэднявечча. Прапанаваў стварыць майстэрню, — кажа калега Сулкоўскага, мастак Алесь Цыркуноў. — Ён быў адным з лідараў суполкі «Пагоня», шмат ілюстраваў Коласа, шмат працаваў з тэмай этнічнага Палесся. Якія б ні былі ідэйныя платформы ў ягоных твораў, жывапіснага элемента там было ніяк не меней. У гэтых двух тэмах — Коласа і Палесся — я не ведаю, каб хто-небудзь з мастакоў зрабіў болей. У кожным творы Сулкоўскага ёсць гармонія. Нам яго вельмі не хапае».

Ягоная дачка, таксама таленавітая мастачка, працуе ў Нідэрландах.

**ЮУ**



### Віктар Піскун сышоў у 33



Маладога акцёра Брэсцкага тэатра драмы Віктара Піскуна ведалі і любілі. За сваё кароткае жыццё ён сыграў больш за 20 роляў.

Віктар вучыўся ў Беларускім універсітэце культуры. Працаваў у Брэсцкім тэатры ад 2000 года. Ён меў дзіўны талент пераўвасаблення. Сярод роляў: Усяслаў («Крыж кахання»), Недзім («Саламея Русецкая»), Мядзведзь («Звычайны цуд»), Альфрэд («Каханнем не жартуюць»); Парыс («Рамэа і Джульета») ды інш.

Ён памёр пасля доўгай хваробы. Яму было 33 гады.

### Кампазітар The Doors



Адзін з самых яскравых клавішнікаў у гісторыі папулярнай музыкі — Рэй Манзарэк, піяніст і кампазітар гурту The Doors — памёр у 74 гады.

Ягоны ўнёсак у творчасць The Doors не меншы, чым у фронтмэна Джыма Морысана. Акурат «фірмовы» гук ягонага электраргана зрабіў гучанне гурту пазнавальным з першай ноты.

# Чаму шкарпэткі з арнаментам — гэта нармальна, а бялізна – кепска?

Гэтая вясна ў Беларусі як ніколі насычана моднымі паказамі. Дызайнеры не стамляюцца дзівіць экстравагантнымі калекцыямі. Больш за тое, мода часам афарбоўваецца ў нацыянальны каларыт. **Мадэльер Яўген Іванчык** на конкурсе «Млын моды» прадставіў на ўсеагульны агляд смелую калекцыю адзення ў нацыянальным стылі «Гісторыя пра гэта».



Сукенкі, спадніцы, блузы і нават жаночыя майткі ў бела-чырвонай каларыстыцы былі аздоблены нацыянальным арнаментам. Яўген Іванчык не чакаў, што яго калекцыя можа выклікаць адмоўныя водгукі: «Трэба нарэшце ўсвядоміць, што мы жывём у 21 стагоддзі. Італьянскі сцяг з’яўляецца галоўным брэндам Dolce&Gabbana, і людзі носяць бялізну з лагатыпамі італьянскага сцяга. Калі ў іх гэта нармальна, то чаму нам не рабіць нешта з беларускім арнаментам? Шкарпэткі з беларускім арнаментам ёсць, і гэта нармальна, а бялізна — гэта ўжо кепска. З мяне зрабілі амаль антыпатрыёта».

Што тычыцца самой кампазіцыі касцюма, ужыванне тых ці іншых сімвалаў было сур’ёзна прадумана, а самі арнаменты былі сабраны на Палессі.

Дызайнер плануе і надалей распрацоўваць калекцыі з этнічна беларускім ухілам, але арнамента на майтках больш не будзе. Сваю ўвагу ён засяродзіць на сукенках.

**Вольга Гарапучык**

## На поўдні Беларусі размножыліся ядавітыя тарантулы



Павукі сталі актыўна рассяляцца па Беларусі, выкарыстоўваючы ў якасці экалагічных калідораў поймы рэк Прыпяць, Дняпро і Сож.

Паўднёварускі тарантул мае даўжыню тулава да 3,5 см. Удзень ён хаваецца ў вертыкальных норках, а ўначы выбіраецца на паляванне. Тарантулы аддаюць перавагу паплавам, жывуць каля вады і сілкуюцца насякомымі.

Часцей за ўсё павукі кусаюць людзей, што наступілі на іх па неасцярожнасці. Укус павука-тарантула для большасці людзей не ўяўляе асаблівай пагрозы, але можа выклікаць вострую рэакцыю і прывесці да невялікага ацёку.

У сувязі з гэтым навукоўцы раяць быць пільнымі, адпачываючы на адкрытых, парослых травой берагах Прыпяці і Сожа. Небяспеку ўяўляюць жылыя норкі павука, зацягнутыя ля ўвахода белым павуціннем.

**БелТА**

## Джуд Лоу здымецца ў кароткаметражцы па п’есе «Свабоднага тэатра»

Гэта будзе наступная стужка ў праекце лонданскага тэатра «Янг Вік» і газеты «Гардзіан».

Джуд Лоу ўжо з’яўляўся на сцэне «Янг Вік» у ролі доктара Фаўста, а таксама многа гадоў падтрымліваў «Беларускі свабодны тэатр». У аснову фільма, у якім неўзабаве здымецца сусветна вядомы акцёр, пакладзена п’еса аўтарства «Беларускага свабоднага тэатра» сумесна з брытанскім драматургам Лаўрай Вэйд.

Джуд Лоу выконваў ролі ў такіх фільмах, як «Таленавіты спадар Рыплі», «Шэрлак Холмс», «Блізкасць», «Мае чарнічныя ночы». Сумесны праект тэатра «Янг Вік», які займаецца прасоўваннем маладых драматургаў і акцёраў, і газеты «Гардзіан» па стварэнні шэрагу кароткаметражак накіраваны на раскрыццё таленту тэатральных акцёраў на кінаэкране. Стужкі, знятыя ў межах гэтага праекта, з’яўляюцца на інтэрнэт-старонцы «Гардзіан». Апошні фільм, які выйшаў, — Bed Trick.

**Кірыла Хілько**




Кевін Спэйсі і Джуд Лоу (справа) на акцыі салідарнасці з беларускімі палітвязнямі ў Лондане.



Камертон Сяргея Ваганава

## Камяні спатыкнення

Недзе напачатку мая партал tut.by паведаміў, што ў двары дома № 19 па Ульянаўскай вуліцы мінскія аматары краязнаўства знайшлі надмагільны камень, звезены ў невядомы час з якіхсьці гарадскіх могілак.

Знайшлі сякеру пад лавай. Бо пяць гадоў таму я ўжо намагаўся разгледзець літары, што ўеліся ў цёмна-руды граніт: «Михаил Ефимович Белоцерковский. Умер на 27 году от рождения 17 апреля 1866 года». На іншым баку больш выразна — «Брат брату»...

Пра гэты камень я даведаўся ад Наталлі Качаноўскай, што жыве ў тым двары. Звыш трыццаці гадоў таму, калі яна тут пасялілася, камень ужо ляжаў. Дакладней, валяўся...

І вось я ізноў ля таго камня. Як і пяць гадоў таму, вакол буяе май і капашыцца дваровае жыццё.

Калі верыць згаданай навіне ад tut.by, сённяшнія аматары краязнаўства ўзяліся за пошукі хаця б нейкіх слядоў даўняга мінчука...

Нібыта камень, якому амаль паўтара стагоддзя, праз пяць гадоў ізноў падняўся з зямлі...

З Ульянаўскай я паехаў на Сухую.

«...Што, немцы і сваіх габрэяў забівалі?!»

Ягонае ўзрушэнне было такім моцным, што ён абышоў камяні з усіх бакоў, убачыў сляды старанна зацёртай свастыкі...

Тады, пяць гадоў таму, я сустрэў яго ля «Трох камянёў», што ў розныя нядаўнія часы былі пастаўлены ў памяць аб тысячах габрэяў з Гамбурга, Дзюсельдорфа і Брэмена, якія загінулі ў Мінскім гета і Трасцянцы. Сюды ён патрапіў выпадкова — прыехаў са Стаўбцоў наведаць сябра ў лякарні непадалёк.

Я спытаў у яго, колькі яму гадоў, як яго клічуць і ў якой сферы працуе. Гадоў яму аказалася за сорак, працуе інжынерам у камунальнай гаспадарцы.

Я не ведаю, чаму я спытаў у яго пра гэта. Мабыць, таму, што сам быў узрушаны: мне здавалася, што няма на Зямлі чалавека, які нічога не ведае пра Халакост...

Мікалай зашпіліў пінжак, схіліў у задуменнасці галаву з рэдкімі русымі валасамі, потым шырока перахрысціўся і павольна накіраваўся у бок Сухой.

Я вярнуўся поглядам да камянёў. Не, не да тых трох ад немцаў, а да іншых, хаатычна параскіданых проста ля іх падножжаў.

Гэта былі мацэвы — помнікі з габрэйскіх могілак на Сухой, што знішчаны яшчэ ў 70—90-х гадах мінулага стагоддзя. Але камяні-помнікі працягвалі вырастаць з зямлі. Тады, пяць гадоў таму, калі пракладалі цеплацэнтраль уздоўж Перакопскай, не менш за два дзясяткі сцягнулі і кінулі ля «Трох камянёў»...

Здалёк, мусіць, мы выглядалі дзіўнавата — Леў Слобін, вядомы кінадакументаліст, Сямён Ліакумовіч, адзіны мо ў Мінску знаўца ідыша, і я. Нехта праходзіў міма, нехта спыняўся, назіраючы, як немаладыя людзі нахіляюцца над нейкімі камянямі... «...Карп, дакладна, гэта прозвішча Карп... А вось Ціне Файленбоген...» — Сямён Львовіч прашараваў шматком сухой травы імя памерлай у 1920 жыхаркі Мінска, што па волі лёсу і экскаватара аказалася ў месцы, дзе выгульваюць сабак... «А вось па-руску, «Бася Уфляндъ, 26 января 1907»...

### «Глядзі, які добры будаўнічы матэрыял!» — «Гэта ж помнікі, тата!..»

Побач прыпынілася маладая сям’я — тата, мама ды хлопчык гадоў дзесяці. Раптам тата ускліквуў: «Глядзі, які добры будаўнічы матэрыял!» — «Гэта ж помнікі, тата!..»

Потым мы са Слобіным, усё жыццё якога пасля вайны прайшло ў гэтых вуліцах і дварах, вуліцах і дварах колішняга гета, дзе згінула без вестак ягоная сястрычка Таня, спусціліся да Перакопскай, зараз Ерусалімскай. Мы ішлі, спатыкаючыся аб рэшткі мацэваў, углядаючыся ў напакаваныя смеццем правалы склепаў, дзе хаваліся пакутнікі гета...

Мы прайшлі ў пачатак вуліцы, міма гародзіка з кучаравым бульбяным бацвіннем, што нейкім цудам доўжыў жыццё на месцы знесеных прыватных сядзібаў. Вялізны бетонны куб схаваўся ў зарасніку пустазелля, вакол валяліся пустыя бутэлькі, пачкі з-пад цыгарэт, абгорткі ад цукерак... На кубе было пазначана, што вуліца названа «...у гонар святкавання 3000-годдзя Ерусаліма»...

«...Можно с уверенностью говорить о привлекательности Беларуси для туристов с еврейскими корнями из Беларуси, которым есть что предложить, будь то духовные, материальные или просто человеческие ценности, связанные с еврейским наследием в Беларуси...»

Гэта з рэкламнага тэксту «Белінтурыста».

У спісе турыстычных аб’ектаў — могілкі на Сухой.

Могілкі, каторых няма.

...Прайшло пяць гадоў. Да «Трох камянёў» дадаліся яшчэ чатыры — ад жыхароў Кёльна ды Бона, Берліна, Франкфурта-на-Майне і Аўстрыі. Але мінскія мацэвы як ляжалі, так і ляжаць покатам, зарастаючы быллём няспыннага часу.

...Калі мы, хто завецца беларускім народам, не спатыкнёмся аб хрысціянскія, яўрэйскія, мусульманскія, пратэстанцкія, уніяцкія камяні, не апрытомнеем у грэху не толькі перад продкамі, але і як браты перад братамі, то невядома, колькі яшчэ пражывём у дзікунстве. Альбо гэтую духоўную гістарычную працу зробяць за нас (не, замест нас!) іншыя пакаленні.

Магчыма, той самы хлопчык, што ўсклікнуў: «Гэта ж помнікі!» Таму што камяні ўсё роўна вырастуць з зямлі.

# Тацццяна Равяка: **Я не жалезная лэдзі**

Праваабаронца расказвае пра свой лёс і **выпрабаванні, прыгажосць і боршч**.

Тацццяна Равяка нарадзілася ў маленькім пасёлку Мірны, але жыла яна там зусім нядоўга, бо бацькі пераехалі ў Салігорск. Таму яе жыццё «было напалову вясковае і часткова правінцыйна-прамысловае».



**Тацццяна Равяка**
праваабаронца, працуе ў цэнтры «Вясна». Нарадзілася 17 студзеня 1968 у Салігорскім раёне. Разведзеная. Мае 23-гадовую дачку.

МІРАСЛАЎ АДАМЧЫК

**Не люблю, калі я сабе не падабаюся »**

### Мова бабулі

Практычна кожныя выходныя і лета — вёска і бабуля, якая выхоўвала мяне да школы, бо ў дзіцячы садок я не хадзіла. Вёска — гэта немалы складнік майго жыцця. Гэта ў тым ліку і беларуская мова. Калі з вёскі перараджалі ў горад, усе імкнуліся сваёй беларускай мовы пазбавіцца. У школе я размаўляла па-руску, а беларуская мова заставалася мовай бабулі.

### Бацькі

У мяне звычайная сям'я. Мая матуля працавала ў краме прадавачкай, а тата — кіроўцам. Яны людзі простыя, і каштоўнасці, якія імі закладаліся, былі кансерватыўна-сямейныя.

### Я была паслухмянай і ціхай

У дзяцінстве я была паслухмянай дзяўчынкай. У нас шматдзетная сям'я — чацвёра дзяцей. Я была другой. Яшчэ ёсць старэйшая сястра. Яна ў нас далікатная і капрызная, а я — паслухмяная і ціхая. У сям'і заўсёды выхоўвалася пачуццё ўзаемнай адказнасці адно за аднаго.

### «Паляванне на лісіц»

Я вучылася добра, былі толькі 2 чацвёркі: па хіміі і англійскай мове. Я люблю англійскую мову, але зараз на ёй не размаўляю, бо выкладалася яна не як мова стасункаў, а як мова практыкаванняў. У школе я займалася такім папулярным тады відам спорту, як спартыўнае радыёарыентаванне — паляванне на лісіц. Калі ў 10 класе ўсе здавалі іспыты, я адстойвала імя Бацькаўшчыны на чэмпіянаце СССР. Калі надышоў час паступаць ва ўніверсітэт, падумаўшы, абрала філфак і меркавала, што буду настаўніцай.

### Я вучылася ў часы перабудовы

Маё грамадска-палітычнае жыццё пачалося пасля паступлення ва ўніверсітэт. Такія цудоўныя людзі, як Паліна Сцепаненка, Мірык Адамчык, Сева Рагойша і іншыя сябры, далі мне вялікі штуршок да пазнання літаратуры. Я вучылася ў 1985—1990, у часы перабудовы і першых хваляванняў.

### Ніколі не думала, што стану праваабаронцай

У 1990 я нарадзіла дзіця і «выпала» з жыцця на нейкі час. Узнавілася мая сацыяльная актыўнасць, калі ў 1991 адчыняўся Музей Максіма Багдановіча, куды мяне ўзялі на працу. Гэтая падзея вызначыла вектар майго жыцця. Той час быў вельмі палітызаваным: пачаліся пратэсты, рэферэндумы, разгоны і дэманстрацыі. Алесь Бяляцкі на той час быў дырэктарам музея, і пэўная частка яго грамадскай дзейнасці адбывалася на тэрыторыі музея. Тыя, хто хацеў, аказваў дапамогу. Людзі прыносілі перадачы проста ў музей. Калідоры былі застаўлены скрынямі з макаронай і тушонкай. У 1998 стала зразумелым, што трэба рабіць нейкі выбар, Алесь сыходзіў з музея, бо быць кіраўніком культурнай дзяржаўнай установы і адначасова займацца праваабарончай

**Бацькі ніколі не казалі мне, што я раблю нешта не так »**

ініцыятывай («Вясна-96») ужо было немагчыма. І калі ён сыходзіў, то прапанаваў сысці разам з ім. Я сумнявалася, бо, што ўяўляюць з сябе правы чалавека, я не ведала. Тады ён сказаў: «Таня, пісаць умееш? Тады будзеш пісаць». Бо тое, што адбывалася, патрэбна было нейкім чынам фіксаваць. Потым я скончыла вышэйшы міжнародны курс па правах чалавека ў Варшаве, які паставіў на месца ўсё ў маёй галаве. Я ніколі не думала, што жыццё мяне прывядзе ў праваабарончую дзейнасць.

### Ці патрэбны табе ўсе гэтыя выпрабаванні?

Перад тым як ісці працаваць у праваабарончую арганізацыю, трэба дакладна адказаць сабе на пытанне, ці патрэбныя табе выпрабаванні, якія будуць суправаджаць цябе ўсё жыццё. І калі твой унутраны голас барацьбы за справядлівасць перамагае, то рабі гэты крок. Калі па тэлебачанні паказваюць праваабаронцаў як людзей, якія толькі ездзяць па замежжы і нібыта паклёпнічаюць на нашу Радзіму, то гэта зусім не так. Гэта вельмі сур'ёзная праца, і ты разумееш, што за кожнае сваё слова ты адказваеш.

### Бацькі хацелі простага і бяспечнага жыцця для дзяцей

Я разведзеная, з мужам мы пражылі амаль 10 гадоў. Мы маем з ім дачку. І адразу скажу, што мая грамадская дзейнасць не мела дачынення да разводу. Дачка — гэта тая частка сям'і, з якой я сутыкаюся штодня. А ўся сям'я ў нас вялікая: сёстры, брат, у кожнага свае дзеці, унукі. Не ўсё так проста, і не заўсёды ёсць разуменне, навошта мне гэта трэба. Бацькі хацелі для сваіх дзяцей простага і бяспечнага жыцця. Але ніколі яны мне не сказалі, што я раблю нешта не так. Яны заўсёды мяне падтрымліваюць.

### «Каб ты была проста дома»

Мая дачка з дзяцінства расла сярод тых людзей, з якімі я працую і сябрую. Ёй зараз 23 гады. З дзяцінства яна ведае Алеся Віктаравіча Бяляцкага. Нядаўна яна мне сказала: «Мама, мне ўсё жыццё не хапала таго, каб ты была проста дома, каб ты, як іншыя мамы, гатавала сняданак, абед і вячэру. Ты зрываешся і кудысьці ляціш. У цябе заўсёды былі справы, якія былі калі не важнейшымі за мяне, дык такімі ж істотнымі, і мне было крыўдна. Я цябе заўсёды буду любіць і падтрымліваць, але для сваёй сям'і я не абяру такі шлях».

### Я таксама гатую боршч

Я таксама гатую боршч, маю парадак дома. У мяне самы звычайны побыт і самая звычайная адказнасць перад блізкімі. Але мне, пэўна, трэба яшчэ нешта іншае ў гэтым жыцці, і яно не замыкаецца на сямейных абавязках.

### Шукаць усе шляхі, каб змякчыць удар

Самым вялікім урокам, які дала мне мая праца, стала разуменне таго, што трэба не толькі спачуваць пацярпелым, а яшчэ шукаць усе шляхі, каб змякчыць удар, дапамагчы практычнымі дзеяннямі. Разам з тым, падзеі 2006, 2010 я заўсёды параўноўвала з папярэднім досведам (трагедыя на Нямізе, лёсы зніклых) і казала сваякам пацярпелых, што ўсё нармальна, галоўнае — іх родныя жывыя і здаровыя, а тое, што за кратамі — гэта часова.

### Дзяржава абавязана вам, а не вы ёй

Сказаць, што я калі-небудзь хацела змяніць працу, то такога не было. Хацела толькі перанакіравацца з балючай тэматыкі арыштаў на адукацыю. Не будзе такога «бац», каб мы прачнуліся і зразумелі, што правы чалавека належаць кожнаму. Ідэалогія падпарадкавання асобы дзяржаве ў нас дамінуючая. Яна вычышчае ў свядомасці людзей

**Дзяржава абавязана вам, а не вы ёй »**

разуменне сябе як асобы, надзеленай усімі правамі. Дзяржава абавязана вам, а не вы ёй. Інтуітыўна людзі адчуваюць падсвядомы дыскамфорт ад таго, што ім нечага не хапае. Беларусы сябе проста недаацэньваюць.

### Раблю зарадку і хаджу ў басейн

Я прачынаюся рана, а 6:30. Раблю зарадку, хаджу ў басейн. Апошнія 5 месяцаў, калі мы працавалі па дамах, то працоўны дзень пачынаўся з таго моманту, як ты прачнуўся, а сканчаўся ў момант адыходу да сну. Цяпер, калі мы маем свой офіс, расклад працы стаў больш упарадкаваным.

### Не люблю, калі я сабе не падабаюся

У свае 45 гадоў я павінна думаць пра здароўе і знешні выгляд, бо я застаюся жанчынай. Я амаль не фарбуюся, бо мой лад жыцця вельмі актыўны і ўся гэтая «прыгажосць» на мне абавязкова размажацца. Нічым асаблівым дзеля сваёй знешнасці не карыстаюся. Раблю, праўда, розныя фізічныя практыкаванні. Я хаджу да касметолага, але толькі ў 45 гадоў вырашыла да яго завітаць. Не люблю, калі я сабе не падабаюся. Мой стыль адзення больш спартыўны, але апошнім часам сталі падабацца спадніцы і сукенкі, можа, гэта такі псіхалагічны супраціў ад негатыву, якім напоўнена жыццё. Шопінг не па мне, прыходжу ў краму заўсёды з разуменнем таго, што мне трэба. Шопінг мяне стамляе. Псіхалагічную разгрузку я знаходжу ў збіранні грыбоў і нават рыбалку люблю. А яшчэ я люблю мяса і агародніну і абсалютна абыякавая да ўсяго салодкага.

### Мы звычайныя людзі

Я і плачу, і хвалююся. Я не жалезная лэдзі. Я хачу, каб у людзей было нармальнае ўспрыманне праваабаронцаў, каб яны разумелі, што мы звычайныя людзі са звычайным жыццём. І не было ўяўлення, што мы дзіўныя людзі, якія, акрамя цытавання Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, нічога ў жыцці не бачаць.

**Вольга Гарапучык**

# Сігануў з 6-метровай вышыні галавой уніз і не разбіўся

«Хлопец яшчэ на вуліцы бегаў, крычаў, розныя гукі выдаваў, загаворваў з усімі запар», — расказала чытачка Паўліна. Калі яна ўбачыла дзіўнага хлопца ўжо ў метро на «Нямізе», вырашыла зняць ягоныя паводзіны на камеру мабільніка. Той запіс ледзь не стаў для яго апошнім прыжыццёвым.

На відэа бачна, як хлопец галёкае і скача. Ён спрабаваў прарвацца ў метро, але дзяжурны яго не прапусціў. Урэшце, ён ускочыў на парэнчы, што аддзяляюць вестыбюль-балкон ад станцыі, і кульнуўся на платформу. З вышыні ў шэсць метраў ён зваліўся галавой уніз. Ніхто не спрабаваў яго спыніць, бо людзі не думалі, што ён гайсане долу.

Пасажыры адразу ж кінуліся яго рэанімаваць. Адышоўшы ад шоку, ён пачаў варушыцца. Нохам пайшла кроў. Пасля яго забрала хуткая дапамога.

«Усё нармальна з ім», — сказаў начальнік мінскай падземкі Расціслаў Юрэня. Ён не лічыць, што «такія тэмы трэба мусоліць», хаця яны і не адзінкавыя.

Расціслаў Юрэня адзначыў, што ў сувязі са здарэннем ніякіх канструктыўных рашэнняў уводзіцца на станцыі не будзе. «Калі чалавек надумаў зваліцца, дзірку для гэтага ён знойдзе». Начальнік падземкі паведаміў, што для забеспячэння дадатковай бяспекі пасажыраў на трэцяй лініі метро ў 2017 з'явіцца платформенныя дзверы. Для таго, каб людзі не падалі на рэйкі.

«Цяжка пазнаць на відэа, але, мажліва, пару месяцаў таму я бачыў гэтага хлопца. Было каля 24 гадзін. Ён стаяў на пероне і раптам зароў нешта кшалту: «Козлы! Ідите отсюда! Встали со скамейки, уроды! Вы знаете, кто я?! Мои друзья тут сядут!» На заўвагі ён не рэагаваў і чапляўся да людзей. Я падышоў да міліцыянта, які стаяў і глядзеў на гэта з іншага парапета, каб той яго забраў у пастарунак. Але хлопец паспеў ускочыць у цягнік, і міліцыянт сказаў, што хуліган нармальна зайшоў у метро і больш гэта яго не тычыцца, — расказаў чытач «НН» Павел.

**Кастусь Матушыч**



Хлопец зваліўся з шасціметровай вышыні і не забіўся.

**Вышук**



Кулікоўскага Віктара Іванавіча расшукваюць па падазрэнні ў забойстве. Ён ураджэнец Гродна, на выгляд мае 40 гадоў.
Хто ведае месцазнаходжанне падазраванага, тэлефанаваць на: (0152) 79-71-07, (0152) 79-71-08.



Кіраўскі РАУС расшуквае Чорнага Сяргея Сяргеевіча па падазрэнні ў крадзяжы з жытла. Прыкметы: на выгляд 30—35 гадоў, рост 170—175 см, сярэдняга целаскладу, валасы кароткія, твар авальны.
Хто валодае інфармацыяй пра падазраванага, тэлефануйце на нумары: (02237) 2-42-27, (044) 757-85-33.



Мінчук Кілер'ян Уладзімір Іванавіч 17 красавіка 2013 пайшоў з дому ў бок заапарка па вул. Ташкенцкай і знік. Пражываў адзін, злоўжываў алкаголем. Прыкметы: на выгляд 45 гадоў, рост каля 180 см, валасы кароткія цёмныя. Асаблівая прыкмета: скрыўленая спінка носа. Быў апрануты: зялёная куртка, цёмна-сінія джынсы, чорныя туфлі.
Каму вядома месцазнаходжанне Кілер'яна, тэлефануйце ў Заводскае РУУС Мінска: (017) 340-02-02, (017) 340-53-50.

## Каталіцкага святара падазраюць у падпале хат



Касцёл, у якім служыць ксёндз, вядзе сваю гісторыю з сярэдзіны XVIII ст.

Два дамы згарэлі, **трэці не ўзяўся.**

Пажар у Мастоўскім раёне адбыўся ўвечары 8 мая: гарэлі два пустыя дамы. Па словах следчых, прычына пажару — наўмысны падпал. Знайшлі і падазраванага. Дакладней, ён сам напісаў яўку з павіннай. Пікантнасць сітуацыі ў тым, што гэта каталіцкі святар — настаяцель мясцовага храма.

Па словах следчых, ксёндз пацвердзіў свае пісьмовыя паказанні на допыце і на месцы пажараў падрабязна ўсё паказаў. Паколькі ён сам пайшоў на супрацоўніцтва, то пад варту яго не пасадзілі на час следства.

Як заявілі ў Следчым камітэце, па прызнанні святара, ён хацеў падпаліць яшчэ адзін дом у вёсцы: расклаў вогнішча, але яно патухла. Але пакуль не каментуюць прычыны такога незразумелага ўчынку.

«Такі выпадак быў», — паведамілі ў прэсслужбе Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі. Але пакуль праводзяцца экспертызы, Касцёл не дае каментароў. Вядома, што падазраваны ксёндз сёлета адзначае 25-годдзе пачатку свайго служэння. Нарадзіўся ён у 1957 годзе. Выпускнік Рыжскай духоўнай семінарыі.

«Ведаю гэтага ксяндза асабіста. Ён у вобласці пабудаваў тры касцёлы (зразумела, што з дапамогай людзей і Ватыкана). Палітыкай ён не займаўся, але сваё меркаванне мае і не баіцца яго выказваць. Затое ў любы час гатовы прыйсці чалавеку на дапамогу — увесь час возіцца з «кульгавымі і ўбогімі», — так пракаментаваў сітуацыю знаёмы ксяндза. — Прыхажане касцёлаў, дзе ён быў настаяцелем, на яго не нарадуюцца. Хаця, безумоўна, ёсць у яго свае зласліўцы... Тое, што яму «шыюць», ён ніколі б сабе не дазволіў. У той дзень ён заступіўся за сваіх гасцей, якіх спрабавала забраць міліцыя. Яны пачалі сілу ўжываць, і ксёндз дазволіў сабе лішняга — «перашкаджаць законным дзеянням супрацоўнікам АУС».

Крымінальная справа заведзеная за наўмыснае знішчэнне або пашкоджанне маёмасці, здзейсненае агульнанебяспечным спосабам. У выпадку даказанасці віны ксяндзу пагражае да дзесяці гадоў турмы.

**Сяргей Макарэвіч**

## П'яная выхадка можа абярнуцца турмой

Бацькі **за вуха прывялі** сына-хулігана ў міліцыю.

Падазраванаму мінчуку толькі 20 гадоў, а ён і не вучыцца, і не працуе. Затое добра засвоіў майстэрства бойкі.

17-гадовы школьнік у пераходзе на станцыі метро Плошча Перамогі натыкнуўся на кампанію маладых людзей. Калі праходзіў побач з ёй, адзін з хлопцаў кінуўся да падлетка, устаў на калені і ўкусіў за нагу. Адштурхнуўшы хулігана, школьнік паспяшаў у метро. Але ўжо на станцыі яго дагнаў сябар крыўдзіцеля і пачаў біць. Адступіў толькі тады, калі кантралёрка пачала выклікаць міліцыю. Але паспеў засвяціцца перад камерай. Па гэтым відэа яго і знайшлі. Ролік міліцыя выклала ў інтэрнэт у спадзеве, што нехта апазнае хулігана. Яго і сапраўды пазналі — родныя бацькі. І раніцай за вуха прывялі ў міліцыю.

20-гадовы мінчук у той дзень быў нападпітку. «Ён прызнаўся і раскаяўся», — паведамілі ў Следчым камітэце. Але яму пагражае рэальны тэрмін: ад паўгадавога арышту да шасці гадоў калоніі. У школьніка ж дыягнаставалі чэрапна-мазгавую траўму, драпіны.

Як аказалася, для мінчука гэты не першая падобная выхадка. Ілля пазнаў таксама дэбашыра. Яму давялося быць сведкам ягоных патасовак.

«Гэты хлопец удзельнічаў у падобнай бойцы каля месяца таму каля цэнтральнага «Макдональдса». Вось толькі тады яму трапіўся чалавек небеларускай знешнасці, і ён па сваіх перакананнях наляцеў на таго. Але не ведаў, што ён чэмпіён па вольнай барацьбе. Я доўга смяяўся, калі ён пасля прагібу не мог падняцца з зямлі. Цяпер гэты задзіра выбраў ахвяру слабейшую».

**СМ**

## Сцісла

### Падлетак парэзаў таксіста

17-гадовы расіянін прыехаў у Мінск з сябрамі, каб купіць машыну. Але адстаў ад кампаніі. Застаўшыся адзін і без грошай, рашыўся на разбой. У краме скраў нож, а ўначы падсеў у аўто да таксіста. Толькі кіроўца грошы не аддаў, а пачаў супраціўляцца. Параніўшы яго нажом у плячо, хлопец збег. Затрымалі яго праз дваццаць хвілін.

### Збіў свайго настаўніка

Настаўнік рускай мовы і літаратуры адной са школ Баранавіч зрабіў заўвагу свайму былому вучню: той піў піва на школьным стадыёне. Хлопца гэта настолькі абразіла, што рашыўся на помсту. Дапіўшы піва, ён зайшоў у школу. А сустрэўшы «крыўдзіцеля», накінуўся на яго з кулакамі. Настаўніку давялося звяртацца ў бальніцу, а хулігану пагражае крымінальная справа.

### Чарговы мэр арыштаваны

Следчы камітэт завёў крымінальную справу на былога кіраўніка Жыткавіч Мікалая Какору. Падазраецца экс-чыноўнік у выкарыстанні службовага становішча для здзяйснення злачынстваў, скіраваных на атрыманне незаконнай страхавой выплаты ў сувязі з пашкоджаннем службовага аўто. Сума шкоды не ўдакладняецца, але гэта не менш за 100 млн рублёў. Вядома, што ўсю суму Какора ўжо сплаціў.

### Дапарушалася

29-гадовая жанчына трапіла пад колы аўто на Мінскай кальцавой дарозе ў раёне Азярцо — Старое Сяло. Кіроўца, які яе збіў, з'ехаў. Аказалася, што жанчына васямнаццаць разоў прыцягвалася да адказнасці за парушэнне ПДР у якасці пешахода. Дзявятнаццатае парушэнне стала ракавым.

### Вымагаў грошы

Падлеткі адпачывалі ў кавярні Мінска. Калі адзін з іх пайшоў у прыбіральню, да яго там пачаў чапляцца незнаёмец. Каб паказаць сваю перавагу, стукнуў школьніка. Калі ён расказваў пра інцыдэнт сябрам, размову пачуў і ахоўнік кавярні. Ён і здаў 19-гадовага дэбашыра міліцыі: яго адправілі на суткі. Пасля выхаду хлопец знайшоў школьніка праз сацыяльныя сеткі і прызначыў сустрэчу: маўляў, выбачыцца. Але пачаў патрабаваць грошы — 1,2 млн рулёў. Каб «выбіць» грошы, зноў пачаў біцца. Тады яго і затрымалі.

**КМ**

# Прататып героя фільма «Жыве Беларусь!»: «Мяне ўтапталі ў бруд»

Стужка правалілася ў кінатэатрах, **але мае поспех у нэце**.

Гісторыя палітрэкрута Мірона Захаркі ва ўмовах «апошняй дыктатуры Еўропы» зусім не зацікавіла польскага гледача. Але беларусы масава глядзяць фільм у інтэрнэце і спрачаюцца пра яго.

У 38-мільённай Польшчы, асноўнай пракатнай пляцоўцы, «Жыве Беларусь!» паглядзелі толькі 2454 чалавекі, паведамілі «НН» у кампаніі Kino Swiat, якая займалася дыстрыбуцыяй. «Гэта лічба за ўвесь пракатны перыяд, і не думаю, што яна неяк зменіцца», — напісаў супрацоўнік фірмы Міхал Дума.

Прэзентацыя фільма адбылася 22 мая 2012 на Канскім кінафестывалі. Польская прэм'ера — 17 красавіка 2013.

Франак Вячорка, сусцэнарыст стужкі і адначасова прататып галоўнага героя, расказаў карэспандэнту «НН», што для польскага праката набылі 21 копію фільма, якую паказвалі 3—5 разоў у дзень. «Усяго адбылося каля 500 сеансаў фільма, а можа і больш», — сказаў Вячорка.

Такім чынам, сярэдняя наведвальнасць сеанса не дацягнула нават да 5 чалавек.



**«Дзед» Шчука: Гэта ж мастацкае кіно!**

Акцёр Дзяніс Тарасенка, які феерычна выканаў ролю «дзеда», па мянушцы Шчука, не згодзен з прэтэнзіямі.

«Гэта ж мастацкае кіно, а не дакументальнае! Мастацтва выкарыстоўвае гіпербалу, бо яму трэба вобразнасць, — тлумачыць Тарасенка. — Вы думаеце, амерыканскія паліцыянты такія, якімі іх паказаў Квенцін Таранціна? Затое ад «Крымінальнага чытва» вока не адарваць!»

Сябрам Тарасенкі фільм спадабаўся.

Дарэчы, у сацыяльнай сетцы «Укантакце» працэнтаў дзевяноста водгукаў на фільм пазітыўныя, маўляў, нармальнае кіно. А вось у «Фэйсбуку» пераважаюць крытычныя водгукі. У дзвюх гэтых сетках розныя па адукацыі і ўзросце аўдыторыі, вось і ўспрыманне адрозніваецца.





Можа быць, ідэя фільма прыйшла Франаку Вячорку ў войску?

А вось у сеціве фільм «пайшоў». Выкладзеная карыстальнікам пад нікам dranik belarus стужка на YouTube сабрала 53 тысячы праглядаў. І гэтая лічба працягвае расці.

### «Мяне ўтапталі ў бруд»

Пасля выхаду стужкі пра яе многа пісалі. Не толькі прыемнае — адзін з прататыпаў для фільма, былы палітпрызыўнік Зміцер Жалезнічэнка, назваў «Жыве Беларусь» «плодам хворай фантазіі».

«Пасля яго прагляду складаецца ўражанне, што ўсе беларусы — або дэгенераты, або алігафрэны, або і тыя, і тыя адначасова. І жывуць яны горш, чым палонныя ў канцлагеры. Пры ўсім маім негатыўным стаўленні да рэжыму пасля прагляду ў мяне было адчуванне, што мяне ўтапталі ў бруд і праехаліся зверху на БелАЗе. І ў гэтым стужка нічым не лепшая за залатую калекцыю порнаагітак БТ ці сайт «Хартыі». Там і там хлусня, маніпуляцыі і выкарыстанне людзей у сваіх мэтах», — напісаў Жалезнічэнка.

### «Зрабілі з войска монстра»

«НН» вырашыла даведацца ў іншых палітрэкрутаў, як ім кіно.

«Шчыра кажучы, цьмянае, — кажа мінчук Зміцер Хведарук. — Войска ў нас, зразумела, дзікае, але ў фільме вялікі перабор. Там увесь час кагосьці збіваюць. Зразумела, і нестатутныя адносіны былі ў мяне ў войску, і жаўнеры біліся часам, але не так жорстка. А «палітычных» зусім не чапалі», — узгадвае Зміцер. — Дый абыякавасці не было. Саслужыўцы на мяне рэагавалі роўна і спрыяльна».

Віталь Каратыш з Кажан-Гарадка (Лунінецкі раён) таксама не адмаўляе, што «ў войску служыцца сапраўды цяжка — гэта ж армія», аднак разам з тым мяркуе, што «фільм не адпавядае рэчаіснасці».

«Калі здымалі «Жыве Беларусь!», Франак Вячорка тэлефанаваў мне, і я ў прыватным парадку даваў яму кансультацыі наконт вайсковага быту, статутных працэдур, пастраенняў. А што выйшла ў фільме? Зрабілі з войска монстра, паказалі толькі адмоўны бок. Так, мяне таксама забралі ў салдаты з парушэннем правоў, але нават у мяне з арміяй звязана шмат добрых успамінаў. Фільм зняты польскім рэжысёрам на замову Міністэрства культуры Польшчы. Таму галоўная мэта фільма, на маю думку, — паказаць нейкі стэрэатыпічны польскі погляд на Беларусь», — здалося Каратышу.

Іншы палітрэкрут Алесь Каліта паведаміў, што ён «фільм прынцыпова не глядзеў і не збіраецца».

**Кірыла Хілько**

## На «Жыве Беларусь!» адгукнуліся найлепшыя розумы краіны

«Жыве Беларусь!» варта было зняць хоць бы дзеля таго, колькі людзей ён прабіў на рэфлексіі. Нават калі не ўсе імёны тых, хто адгукнуўся на выхад карціны, цяпер на слыху, гэта напраўдзе найлепшыя людзі краіны. І крайне цікава, у якім ракурсе яны разглядаюць карціну і па якіх крытэрах ацэньваюць. Чаго яны чакаюць ад кіно і, шырэй, — беларускай культуры як такой, і як расстаўляюць прыярытэты ў новай культурнай сітуацыі?

**Алесь Чарняковіч, беларус, аналітык іспанскага даследчага цэнтра FRIDE:**

Фільм Лукашэвіча-Вячоркі — прапагандысцкі гратэск. Расчараванне аказалася тым большым, што аўтары стужкі рабілі ёй гучны піяр. Сорамна, што такой нашу краіну і яе народ могуць упершыню пабачыць і сур'ёзна ўспрыняць замежнікі! «Вышэй за неба» Курэйчыка, прыкладам, глядзець было цікава. І не сорамна. Тая стужка давала надзею. «Жыве Беларусь!» не дае ні надзеі, ні мастацкай эстэтыкі, ні жыццёвай праўды.

Фільм вызначае слабая ігра акцёраў. Сваю справу добра робяць толькі майстры Анатоль Кот і Аляксандр Малчанаў, але іх ролі другога плана. Выдатнаму актору Дзянісу Тарасенку ўдаецца выцягнуць характар з вельмі слабага сцэнара, але гэта фільм не ратуе.

Сцэнар — вось самая вялікая праблема фільма. Няма цікавай сюжэтнай лініі, акцэнты размытыя, матывацыя персанажаў непераканаўчая. Мастацкія вобразы — плоскія і гратэскныя. Беларусы выстаўленыя нейкімі карыкатурнымі, апазіцыянеры — шаблоннымі, а сам палітычны пратэст — эфемерным. Стужка выйшла двухмернай.

**Сяргей Гудзілін, фатограф:**

Галівуд ніколі не здымае фільмаў пра тое, што было 5 ці 10 гадоў назад. Але прынцып: «Новае — гэта добра забытае старое» — там працуе на 100%. Для «Жыве Беларусь!» ідэальным быў бы сцэнар супраціву 90-х. Пра гэта маладая генерацыя нічога не ведае, але падзеі для Беларусі там не менш, а то і больш драматычныя. Трэ' было здымаць кіно пра тых маладых патрыётаў, у якіх цяпер сем'і, пра тое, як Зянон тайна ўцякаў з краіны. Пра сэкс, моладзь і другую палову 90-х, пра пакаленне «НРМ». Для краіны той прамежак важнейшы за сітуацыю 2009—2010-га. І аўдыторыя фільма была б шырэйшая. Гэта тактыка мастацтва. І Захаду тая частка гісторыі таксама была б цікавейшая.

**Аляксандр Качан, сцэнарыст «Масакры»:**

Фільм «Жыве Беларусь!» немагчыма рэцэнзаваць як мастацкі твор. Гэта перш за ўсё палітычная з'ява, стаўленне да яго вызначаецца грамадскай пазіцыяй, ідэалагічнымі перакананнямі, а не эстэтычным густам ці прафесійнымі крытэрамі. Гэта публіцыстычны твор у форме ігравога.

**Павел Батуеў, электрык з Салігорска, які працуе на Ямале:**

Паглядзеў «Жыве Беларусь!». Страшна вяртацца на радзіму (іронія).

**Сабраў Мікола Бугай**

# І мова, і каўбаса!

Рана хаваць беларусаў, спадару Акудовіч.

У канцы мінулага года мне давялося больш за месяц знаходзіцца ў культурнай сталіцы Расіі — Санкт-Пецярбургу. Я не быў там гады тры, і змены ў сацыяльнай сферы кідаліся ў вочы. Расслаенне грамадзян па маёмасным паказчыку павялічылася, нянавісць да прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў і рэлігій даходзіць часам да кіпення.

І дзейная ўлада, здаецца, разумее, што дзеля захавання цэласнасці Расіі неабходна згуртаваць нацыянальныя эліты. Вось і 13 снежня 2012 Пуцін казаў, што трэба надаць асаблівую ўвагу ўмацаванню маральных і духоўных каштоўнасцяў, нацыянальнага адзінства. У Піцеры паўсюль вісяць білборды, якія заклікаюць шанаваць расійскую мову. На іх указваюцца адрасы цэнтраў, дзе можна падвучыць расійскую задарма, распрацавана цэлая дзяржаўная праграма. Так, Расія ўсё яшчэ не можа вызначыцца да канца са сваёй «рускай ідэяй», але той, хто называе сябе рускім ці расіянінам, хаця б не ганьбіць сваё, расійскае.

А што ў нас? У беларускіх СМІ і байнэце ёсць цэлая плынь, скіраваная на знявагу нашай гісторыі, культуры, мовы. Лямант стаіць: няма нацыі, народ вырачся мовы — і далей ідуць адкрытыя абразы ўсяго беларускага. І не толькі якія-небудзь беларусафобы за грошы ці так ганьбяць усё беларускае, да іх далучаюцца асобы, якія заяўляюць пра сябе як пра патрыётаў, прыхільнікаў беларушчыны, інтэлігентаў, інтэлектуалаў.

Вось і Валянцін Акудовіч, беларускі інтэлектуал, кажа, што беларусаў няма. Здаецца, цяпер нават дурні ведаюць, што нацыянальнасць вызначаецца самастойна і добраахвотна. І нягледзячы на тое, што на апошнім перапісе 84% насельніцтва назвалі сябе беларусамі, некаторыя нашы інтэлектуалы бачаць шаснаццаць, дзе ёсць сто. Як той казаў, разруха не ў клазетах, а ў галовах.

Тое, што беларусы як нацыя цяпер разгубленыя, стомленыя, няўпэўненыя — гэта адно. А казаць, што беларускай нацыі наогул не існуе — гэта дапамагаць тым, хто жадае, каб нас не існавала.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Асноўныя дыскусіі вядуцца вакол беларускай мовы. Нехта кажа, што трэба захаваць дэмаркацыйны падзел паміж беларускамоўнымі і расійскамоўнымі беларусамі. Нехта кліча ў беларускае гета. Бо мова фармуецца ў народзе, цэлым народам, а не высокаадукаванымі адзінкамі. Адзінае, што варта рабіць інтэлігенцыі і ўсім, каму неабыякавы лёс краіны, — быць у народзе з роднай мовай, каб яна не знікла.

Кароткае адступленне пра смерць моваў. Ёсць у Расіі шмат выміраючых народнасцяў. Напрыклад, чулымцы. Некалькі гадоў таму да іх прыязджаў амерыканскі навуковец, вывучаў мову, традыцыі, бо хутчэй за ўсё гэты народ знікне, і варта захаваць для навукі ўнікальны культурны пласт. І ніхто не выказаў заклапочанасці. Не тое з нашай мовай, культурай: калі робіцца хоць які маленькі крок у бок яе адраджэння — сярод ворагаў беларушчыны падымаецца лямант. Навошта ж баяцца мёртвай, нежыццяздольнай мовы? Відавочна, прычына страху ў яе трываласці і трываласці народа, якому яна родная.

Насамрэч у беларусаў ніякай грэблівасці да сваёй мовы няма, падзел на нібыта варагуючых расійскамоўных і беларускамоўных — надуманы, скіраваны на раз’яднанне. Самае трапнае стаўленне да роднай мовы было выказанае ў адным з відэапытанняў «НН, калі расійскамоўны дзядзька сказаў: «Так, маем такую мову!» Проста чалавеку, які працуе на заводзе ці будоўлі, цяжэй пачаць размаўляць па-беларуску, чым, скажам, службоўцу якойсьці культурнай установы, дзе па справах даводзіцца сутыкацца з беларускай мовай. Просты працоўны можа не карыстацца роднай мовай на працы, дома, можа нават назваць роднай расійскую, калі перапісчык саб’е з панталыку ўдакладненнем, што родная мова — гэта тая, якую засвоіў у дзяцінстве. Але гэта не азначае, што ён не гатовы гаварыць па-беларуску і аддаць дзяцей у беларускую школу, калі для гэтага будуць спрыяльныя ўмовы. Свая мова беларусу, у тым ліку расійскамоўнаму, уласцівая ўнутрана, іманентна.

Ніхто не назаве роднай мовай тую, якой пагарджае. На апошнім перапісе беларускаю назвалі роднай 60% насельніцтва. Прыплюсуйце заблытаных удакладненнем пра «засвоеную ў дзяцінстве», больш карэктным для каланіяльных краін, і ўлічыце: ніхто не тлумачыў, што родных моваў можа быць некалькі. І мы пабачым, што большасць жыхароў Беларусі станоўча ставіцца да беларускай мовы.

Так, ёсць невялікі адсотак людзей, якія ставяцца адмоўна. Часткова гэта тыя, хто мае дачыненне да ўлады і карыстаецца яе рэсурсам. Беларуская мова для іх — сімвал зменаў да горшага. (Хаця зразумела, што не ўсе з іх дрэнна ставяцца да мовы.) Могуць адмоўна ставіцца да мовы і малаадукаваныя людзі з саўковымі стэрэатыпамі. Такія хутка пазбаўляюцца комплексаў пасля невялікай адукацыйнай лекцыі. Колькасць тых і другіх часта перабольшваюць, бо ганіць беларускую мову пры цяперашнім рэжыме бяспечна, а вось бараніць — не заўсёды.

У моўных пытаннях беларусаў часта параўноўваюць з ірландцамі, аднак гэта не зусім карэктна. Там з часу абвяшчэння незалежнасці вядзецца актыўная праца па адраджэнні ірландскай мовы. Тут на дзяржаўным узроўні вядзецца праца па вынішчэнні мовы: зверху спускаюцца дырэктывы аб недапушчэнні беларусізацыі, парушаюцца правы беларускамоўных, за мову могуць звольніць, неадэкватна паставіцца ў судзе ці міліцыі і г.д.

Пасля Другой сусветнай вайны, калі ірландцы ўзяліся за нацыянальнае адраджэнне, у нас пачалася чарговая хваля русіфікацыі. У тыя часы гарадам патрабавалася працоўная сіла, а сяляне імкнуліся вырвацца з галодных вёсак. Той, хто прыязджаў з вёскі ў горад, павінен быў пераходзіць на расійскую, калі хацеў знайсці прыстойную працу.

Беларусы, як і іншыя паняволеныя народы, апынуліся ў становішчы экзістэнцыйнага выбару. Між акупантам і паняволеным ажыццяўляецца пэўны гандаль. Імперыя метадам бізуна і перніка прапануе адмовіцца ад святынь, мовы, нацыянальнасці і ўзамен абяцае акупаваным права на жыццё, магчымасць гадаваць дзяцей, каб потым іх жа і выкарыстаць. А той, хто не адмаўляецца ад нацыянальных каштоўнасцяў, ідзе ў выгнанне, на катаргу, смерць, а затым свеціць зоркай прыкладу нашчадкам тых, хто адмовіўся.

Так было раней, і амаль тое ж цяпер. Калі беларуская мова фактычна па-за законам, хто ж сваю крывіначку аддасць у беларускую школу? Нават той, хто абедзвюма рукамі за навучанне па-беларуску, прывядзе сваё дзіця ў расійскамоўную школу з надзеяй, што прыйдзе час — і яго нашчадак здолее разарваць ланцугі, якіх не разарваў ён сам.

Вышэйзгаданы філосаф Акудовіч кажа, што народ заўсёды выбера каўбасу замест мовы. Многія народы ва ўмовах акупацыі выбіралі фізічнае выжыванне. Але аматары паразважаць на гэту тэму забылі, што 26 снежня 1990, калі Вярхоўны Савет Беларускай ССР абвясціў беларускую мову адзінай дзяржаўнай, пратэстнай хвалі расійскамоўных беларусаў не паднялося. І цяпер, калі б была ўведзеная адзіная дзяржаўная мова, беларуская, ніхто б не выйшаў на плошчу. Не праз пасіўнасць, а таму, што не лічаць мову чужой.

Сама мова для нашага народа — не «знак бяды». А знак бяды — стаўленне ўлады да беларускамоўных. Ад самага пачатку расійскай акупацыі і да сённяшняга дня яно было то паўзуча, то забойча рэпрэсіўным.

Часта даводзіцца чуць пра немагчымасць прыйсці да ўлады з беларускай мовай. Некаторыя аналітыкі забываюцца, як трасянка, тая трасянка, якою грэбавалі і расейскамоўныя, і беларускамоўныя, раптам стала мовай улады. Хаця яшчэ зусім нядаўна, за Саюзам, наменклатура мусіла вучыцца размаўляць па-расійску, калі хацела быць наменклатурай.

Калі б існавала сапраўдная роўнасць расійскай і беларускай моваў ва ўсіх сферах — у палітыцы, на тэлебачанні, радыё і іншых СМІ, у сферы адукацыі, — беларуская заняла б галоўныя пазіцыі. Культурнага патэнцыялу для гэтага дастаткова. Калі ў парламент прыйдуць беларускамоўныя палітыкі, калі будуць адмененыя чорныя спісы і на тэлебачанні і радыё Шалкевіч, Вайцюшкевіч, Вольскі і шмат хто яшчэ заспяваюць гэтак жа свабодна, як Калдун і Грыбалёва, калі здымуцца добрыя фільмы па-беларуску, — адраджэнне мовы адбудзецца хутка і лёгка.

Замест таго каб хаваць беларусаў разам з мовай, варта дапамагчы самім сабе рэалізаваць канстытуцыйнае права на свабоднае карыстанне абедзвюма дзяржаўнымі мовамі і прапанаваць народу і мову, і каўбасу! Але дзе там: нашы постмадэрністы ўжо закаталі нас катком глабалізацыі.

Аднак ні пры расійскай акупацыі, ні пры цяперашняй беларусафобскай уладзе, ні пры любой прарасійскай уладзе роўнасці між беларускай і расійскай мовамі не будзе. Бо ёсць імперскі страх: а раптам беларускі народ захоча абраць сваю, беларускую ўладу, якая сама пачне вырашаць лёс краіны? Ці не страціць Расія свой кантроль над намі і ці не будзе пастаўленае пад пытанне існаванне імперыі?

Імперыі мы патрэбныя ў якасці гаспадарчай тэрыторыі з паслухмяным народам. Вырашаць свой лёс можна толькі аб’яднаўшыся, і мова на гэтым шляху — інструмент яднання. І той факт, што у народа добрае стаўленне да мовы, дае надзею.

Беларусь 2013-га ўжо не тая, што была ў 1990—1994. Мы не называем нашымі расійскія футбольныя клубы, цэнтрам краіны лічым Мінск, а не Маскву, нашы грамадзяне ад’язджаюць на заробкі ў Расію з пачуццём таго, што пакідаюць радзіму, наша моладзь лічыць сябе еўрапейскай. Мы перажылі шмат нялёгкіх гадоў стабільнасці. І можна спадзявацца, што час і нашы агульныя намаганні дарабіць тое, што не паспела дарабіць другое беларускае адраджэнне за кароткі перыяд канца 80-х — пачатку 90-х.

**Нейкі дзядзька, даслана ў каментары на nn.by**

**Філосаф Валянцін Акудовіч:**

«[Патрыёты — «НН».] свята вераць, што як толькі адэпты беларушчыны атрымаюць уладу, то матчына мова вельмі хутка запануе на абшарах нашага краю. Але калі думаць не сэрцам, а галавой (як яно быццам і належыць), то давядзецца прызнаць, што такога, бадай, ніколі не будзе.

...Давайце звернемся да тыпалагічна блізкай нам па многіх параметрах Ірландыі. Вось ужо болей як дзевяноста гадоў ля ўлады там знаходзяцца радыкальныя нацыяналісты, а ірландская мова за гэты час у краіне ...вымарнела ў нішто. І прычыны таму навідавоку — функцыянальныя магчымасці нацыянальнай мовы, раўнуючы з англійскай, былі непараўнальна зніжаныя, і таму ў справе штодзённага жыццяладу яна не вытрымала канкурэнцыі.

...На праблемнае пытанне: мова ці каўбаса, звычайны шараговец цалкам слушна адказвае — каўбаса. Бо мова створаная дзеля жыцця, а не наадварот. І калі нейкая мова не паляпшае жыццё чалавека, то навошта яму такая мова?

...Сітуацыю з паўсюдным адраджэннем беларускай мовы ўскладняе той факт, што сёння чалавецтва на злом галавы кінулася ў глабалізацыю... Тут даволі праблемаў і для моваў-лідараў, а што тады казаць пра мовы-аўтсайдары».

**Эсэ «Вялікая здрада»**

# Шэсць японскіх шляхціцаў

**Пра што пісалі «газеты» Рэчы Паспалітай?**

Гэтыя ананімныя лісткі хадзілі па краіне ў «эпоху Жыгімонтаў». Іх выдавалі перасоўныя друкарні, якія знаходзіліся ў Кракаве і Вільні або ў абозе каралеўскага войска. Называліся гэтыя выданні «навінкі» («сеймавыя навінкі»), «рэляцыі» (апісанні). Многія з іх мелі непасрэднае дачыненне да Беларусі.

Чыталі іх людзям з амбонаў. Ксяндзы былі першымі «дыктарамі навін», а калі трэба — і аналітыкамі. «Калі бяда якая здарыцца, то найхутчэй пра яе паведамяць «навінкі», хоць часам і схлусяць», — так характарызавалі іх сучаснікі.

### «Навіны грозныя, жахлівыя і жалобныя»

Першыя вядомыя друкаваныя «навінкі» датуюцца 1557. Невядомы аўтар пісаў пра міжнародную палітыку: дамоўленасці паміж Папам і цэзарам і «новай і вартай здзіўлення паразе турак».

У хуткім часе прыйшлі звесткі пра войны ва ўласнай хаце. У 1563 у выпуску, названым «навіны грозныя, жахлівыя і жалобныя», апавядалася, як «вялікі князь маскоўскі са зброяй на зямлю літоўскую падступна ўварваўся; палачы ўсё на сваім шляху і забіваючы людзей, бессаромна і не зважаючы на хрысціянскую міласэрнасць гарады і замкі здабыў і вялікую шкоду ўчыніў».

Вайне з Іванам Жахлівым былі прысвечаныя і наступныя «навінкі» 1564-га. Яны друкаваліся ў пражскім Старымградзе і называліся «важныя навіны з зямлі Літоўскай».

А ў «навінах праўдзівых» ад 1579 паведамляецца пра тое, што літвінамі «ўжо ўзяты знакаміты замак Полацк, які знаходзіцца на літоўскім памежжы».

Як бачым, выданні сачылі за развіццём сітуацыі.



**Віталь Еўмянькоў**

дацэнт, кандыдат філалагічных навук. Працуе ў МДУ імя Куляшова (Магілёў). Даследуе гісторыю і літаратуру Рэчы Паспалітай у XVII — XIX стст. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар больш за 100 навуковых публікацый.

### Кароль гаворыць

Першым гаспадаром, які ацаніў магчымасці друкарні, быў Сцяпан Батура. Падчас вайны з Масквой у каралеўскім абозе ехала паходная друкарня, якая дазваляла манарху кіраваць дзяржавай дыстанцыйна. Баторый выдаваў эдыкты на лаціне і па-польску, якія загадвалі, акрамя ўсяго іншага, чытаць у касцёлах. Яны былі прысвечаныя розным бакам жыцця. Адзін з іх называецца «Артыкулы вайсковыя па загадзе Яго Каралеўскай Мосці агалошаныя». Кароль мусіў, відаць, умацаваць дысцыпліну войска. Працытуем найбольш красамоўны артыкул №5: «Калі б хто ў абозе або падчас паходу сварку распачаў, пакараны судом Яго Каралеўскай Мосці будзе; калі б хто іншага забіў, будзе асуджаны; калі б хто меч на іншага ўзняў — руку той страціць».

### Ідэалагічная прапаганда

«Узялі мы мужыка простага Ягайлу і зрабілі з яго караля, далі яму высакародную каралеву», — пісаў у «Люблінскіх навінах» ад 1567 «грамадзянін Каралеўства», які пажадаў застацца невядомым. Ён даводзіць, што «аб'яднанне з Польшчаю Літва павінна лічыць вялікім для сябе шчасцем», бо «падаравалі продкі нашы Літве свабоду, бо касілі літвіны сена і былі рабамі ў паноў сваіх».

На жаль, у «навінках» не захавалася палемічных меркаванняў жыхароў ВКЛ на гэты конт.



**Найбольш у першых «Навінках» пісалі пра Лівонскую вайну. На гравюры: аблога Полацка войскамі Івана Жахлівага.**



**«Чытаў, што пішуць?» — ліцвінская шляхта XVI ст.**

### З Японіі і Кітая

Друкары паведамлялі пра палітычныя і ваенныя падзеі ў Францыі, Германіі, Турцыі, Італіі. Але часта ў «навінках» з'яўляліся паведамленні і з экзатычных краін «новага свету». Напрыклад, у 1608 жыхары Рэчы Паспалітай чыталі трагічную гісторыю пра «слаўную смерць шасці японскіх шляхціцаў, якую яны прынялі ў імя Ісуса Хрыста».

У 1616 з'яўляюцца «навіны або двухгадовыя падзеі (1606 — 1607), што мелі адбыцца ў Японіі і Кітаі, краінах язычніцкіх, новага свету». Гэта справаздача аб місіянерскай дзейнасці двух езуіцкіх прапаведнікаў. Яшчэ адна навіна з Японіі датуецца 1625: «118 пакутнікаў жахліва закатаваныя ў імя Ісуса Хрыста; забітыя мячом, агнём і вадой. Хвалы вечнай праз пакуты свае яны дасягнулі».

### Маскоўскі вектар

На мяжы XVI — XVII стст. асноўнай тэмай «навінак» была Масква. «Смута» і літоўска-польскія перспектывы на Усходзе — усё гэта выклікала цікавасць у чытацкай публікі ВКЛ. У 1608 пэўны шляхціц з Літвы «праінтэрв'юіраваў» пасланца маскоўскага князя, распытаўшы, «што з Дзмітрыем, а таксама з палякамі ў маскоўскай сталіцы адбылося». У тым самым годзе апублікаваныя «навіны з Масквы аб уступленні цара Дзмітрыя на царства, дасланыя ім пані ваяводзіне сандамірскай Мнішкавай».

У 1609 «маскоўская тэма» зноў асвятляецца. «Навінкі» пішуць пра ваенныя перамогі, але між радкоў спрактыкаваны літвін мог прачытаць не вельмі прыемныя звесткі: «Найяснейшы і непераможны Яго Мосць Кароль Польскі, быўшы з войскам у Маскве, не жадаючы, каб кроў хрысціянская патыранску лілася, маючы намеры выключна добрыя і нават ласкавыя, паслоў сваіх дасылае... да маскоўцаў, абяцаючы захаваць ім усе іх правы, свабоды і рэлігійныя абрады, калі яны яго добраахвотна панам і абаронцам прызнаюць».

Паслоў да пераможаных не шлюць. Чытаючы гэткія навіны, і ў Кракаве, і ў Вільні рабілі аднолькавую выснову: вынік вайны няпэўны. Праз колькі месяцаў у віленскай друкарні Яна Карцана рыхтуецца новая рэляцыя аб ваеннай выправе ў Маскву. Там ёсць цікавая прыпіска друкара: «Каб толькі тая выправа з Боскай дапамогай была шчаслівая і для Рэчы Паспалітай нашай карысная».

У 1610 бясконцыя маскоўскія навіны трохі разбавілі свецкай хронікай: паведамляецца пра «каранацыю Марыі Мэдычы, каралевы Французскай і Наваррскай». А пасля — зноў звесткі з усходняга фронту. Паходная друкарня падае з-пад Смаленска «апісанне пасольства цара Дзмітрыя да Яго Мосці Гетмана і да Іх Мосцяў паноў Сенатараў, а таксама да ўсяго рыцарства». У 1611 спачатку віленская, а потым і кракаўская друкарні друкуюць «Трыумф радасны з прычыны ўзяцця Смаленска» войскам Жыгімонта Вазы.

### Рэлігійныя супярэчнасці

У «рэляцыях» пачатку XVII ст. адчуваецца подых рэлігійных супярэчнасцяў таго часу. «Навінкі» за 1614 пішуць аб «гвалтоўным спыненні ерэтыкамі каталіцкага набажэнства». У 1619 нехта Ян Зрэнчыцкі выступіў у ролі ўласнага карэспандэнта вялікакняскай канцылярыі ў Чэхіі: ён інфармуе землякоў аб каталіцка-пратэстанцкай вайне і аб тым, што «кракаўскія жыды таемна чэшскім пратэстантам даслалі 1800 злотых». У 1620 з'яўляюцца «праўдзівыя навіны» аб спробе забойства караля і яго шчаслівым ратаванні.

### Жаўцізна

Чым далей ад XVI ст., тым больш матэрыялаў маюць аўтарства. Нярэдка карэспандэнцыі з месцаў змяшчаюць інфармацыю сенсацыйнага характару. Так, у 1632 украінскі шляхціц Станіслаў Рашыньскі дасылае паведамленне, якое друкуе каралеўскі тыпограф Ю.Расоўскі: «Запарожскія казакі, ехаўшы недалёка ад Белай Царквы, пачулі на адной гары крыкі і поклічы... Ажно некаторыя з іх насмеліліся, пад'ехалі пад гару, якая зараз жа расступілася, і струмень крыві з вадой выплыў з яе і куль нямала вывалілася. У якасці доказу гэтага здарэння ёсць у Варшаве адна куля, вылітая з нейкага клейкаватага матэрыялу, да смалы падобнага, з пахам серы. Калі па кулі ўдарыць жалезам — іскры сыпяцца».

### Рэклама

У 1633 побач з навінамі з Масквы быў змешчаны верш, які сёння варта было б залічыць у шэраг рэкламных:

«Пытаеш навінаў, быў бы рады чытаць,
з-пад Смаленска просіш
хоць штось напісаць,
Абяцаеш ахвотна і шмат заплаціць,
не спяшайся, мой мілы, тут многа згубіць.
Дай за друк дзесяць грошаў усяго — і чытай.
Схочаш новых — яшчэ ў друкарні спытай».

**Барбара Радзівіл вачыма замежнікаў**

Асобны від рэляцый — справаздачы замежных пасло́ў. Навіны гэтыя, хоць і прызначаліся для нешматлікіх чытачоў, хутка разыходзіліся па Еўропе, перадаючыся з вуснаў у вусны. Так, нунцый Грацыяні, сакратар пасла Вытыкана пры двары Жыгімонта II Аўгуста, паведамляе, што кароль спачувае пратэстантам. Малюе Грацыяні партрэты караля і яго жонкі Барбары Радзівіл. Жыгімонт, на яго думку, — чалавек распусны і непрадказальны. Барбара — жанчына легкадумная, «якая дзеля цяжарнасці прымала без разбору ўсялякія лекі, чым смерць сабе прыспешыла».

### Эксклюзівы

Адна з рэляцый 1634-га ўтрымлівае, сённяшняй мовай, файлы Вікілікс: «альбо ўрыўкі з допісаў паноў радных зямлі Маскоўскай, якія цару падаваліся (у допісах тых раілася заключыць мір з каралём Яго Мосцю Гаспадаром нашым літасцівым)».

Аўтар апавядае, што маскавіты, абложаныя войскамі Рэчы Паспалітай у Смаленску, дужа напалоханыя, Шэін, «гетман іх генеральны, з усім абозам сваім і войскам дужа ад голаду, марозу і хвароб церпіць».

Чым далей, тым больш тэматычна разнастайнымі і частымі рабіліся «навінкі», адкрываючы ўсё шырэйшы свет чытачам. У іх ёсць звесткі аб еўрапейскіх войнах, палітыцы, дзівосах, прыродных катаклізмах. Апошняя рэляцыя, якая датуецца 1643, паведамляе пра «жахлівую паводку ў Італіі».

Тым часам над Рэччу Паспалітай абодвух народаў збіраліся хмары. Шведскі «патоп», крывавая вайна з Масквой, змаганне з туркамі, бясконцыя казацкія войны, унутраныя супярэчнасці абяскровілі дзяржаву. Ці да «навінак» і «рэляцый» было! Працэс пераўтварэння гэтых друкаваных лісткоў, голасу дзяржавы і царквы, у голас грамадства запавольваўся на стагоддзі.

**Віталь Еўмянькоў**

## ГАНДБОЛ

**26 мая на «Мінск-Арэне»** пройдзе матч у адказ фіналу Кубка выкліку. Сустракаюцца мінскі СКА і люксембургскі «Эш». Беларусы могуць выйграць першы гандбольны турнір за доўгі час.

## ІМПРЭЗЫ

### Міфф-2013

24 і 25 мая а 19-й на стадыёне «Трактар» — міжнароднае шоу агню «Міфф-2013». У фэсце возьмуць удзел звыш 70 удзельнікаў з розных краін свету. Усе ўдзельнікі будуць выступаць пад музычнае суправаджэнне ў розных жанрах: сярэднявечча, рамантыка, хард-рок, сольныя выступы…

### Фестываль вулічных артыстаў

**25 мая а 12-й музейны комплекс «Дудуткі»** запрашае ўсіх ахвотных далучыцца да Фестывалю вулічных артыстаў. Наведнікаў музея сустракаюць хадулісты, мімы і жанглёры, а таксама шоу мыльных бурбалак і фокусы…

## КАНЦЭРТЫ

### The Australian Pink Floyd Show




**The Astralian Pink Floyd Show** — аўстралійскі гурт, які адзін у адзін «здымае» легендарныя класічныя шоу «Пінк Флойд» і робіць гэта настолькі добра, што самі музыкі арыгінальнага складу, у прыватнасці, Дэвід Гілмар запрашаюць іх удзельнічаць у сваіх канцэртах і рознага кшталту фестывалях. Паколькі шанцаў на аб'яднанне арыгінальнага Pink Floyd ужо няма, то «Аўстралійскае шоу» можа стаць добрай альтэрнатывай, асабліва з улікам таго, што сапраўдныя фанаты «Флойд», якія наведваюць усе канцэрты Роджара Уотэрса і Дэвіда Гілмара, імкнуцца не прапускаць выступы аўстралійцаў. **Канцэрт пройдзе 25 мая ў Палацы спорту (пр.Пераможцаў, 4).** Білеты каштуюць ад 340 тысяч рублёў да 1 мільёна 200 тысяч.

### N.R.M

**23 мая а 20-й у клубе «Гудвін» (пр.Незалежнасці 19)** — канцэрт гурту N.R.M.

### Сапраўдны Беларускі Канцэрт

**26 мая а 20-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — выступ трох беларускіх гуртоў, кожны з якіх прадставіць сваю новую беларускамоўную праграму. Amaroka прадставіць свой новы альбом Pastka, гурт Green Pill — дэбютны міні-альбом «Шызафрэнія», а гурт ili-ili прэзентуе кліп на песню «Танчыць», а таксама выступіць з цалкам беларускамоўнай праграмай.

### Didn't It Rain

**31 мая а 19-й у Палацы Рэспублікі** Х'ю Лоры выступіць з канцэртам у падтрымку свайго новага альбома Didn't It Rain.

## ВЫСТАВЫ

### Экспартны варыянт

**Да 27 мая ў кнігарні «ЛогвінаЎ» (пр.Незалежнасці, 37а)** працуе выстава «Экспартны варыянт. Беларуская літаратура ў замежных перакладах». Прызнаныя айчынныя аўтары Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Ларыса Геніюш, Уладзімір Арлоў, Уладзімір Някляеў, Андрэй Хадановіч, Наталка Бабіна, Барыс Пятровіч, Артур Клінаў і Адам Глобус у англійскіх, польскіх, украінскіх, нямецкіх, чэшскіх, шведскіх, расійскіх перакладах.

### Беларускі касцюм. Гісторыя і сучаснасць

**Да 23 мая ў Гістарычным музеі** працуе выстава «Беларускі касцюм. Гісторыя і сучаснасць». У экспазіцыі прадстаўленыя строі XVI стагоддзя, найбольш яскравыя ўзоры беларускага народнага касцюма, а таксама ўзоры моднай вопраткі Беларусі ў 1900—1950. А завяршаюць экспазіцыю творы сучасных беларускіх мадэльераў.

### Сонца прамень

**Да 25 мая ў «Гасцёўні Уладзіслава Галубка» (Старавіленская, 14)** працуе выстава твораў Алеся Шатэрніка, на якой прадстаўленыя жывапіс, беларускія краявіды, архітэктура, інтэр'еры беларускіх храмаў і скульптурныя творы майстра.




## ТЭАТР

### 22 мая

**Лялек** — «Балада пра белую вішню»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»

### 23 мая

**Лялек** — «Ладдзя Роспачы»
**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Юнага гледача** — «Пан міністар»

### 24 мая

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Оперы і балета** — «Спартак»
**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

### 25 мая

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»
**Купалаўскі** — «Не мой»

### 26 мая

**Юнага гледача** — «Вясёлы Роджар»
**Лялек** — «Кот у ботах»
**Оперы і балета** — «Кармэн»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»

### 27 мая

**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»

### 28 мая

**Оперы і балета** — «Набука»
**Беларускай драматургіі** — «Ранак панядзелка»
**Оперы і балета** — «Баядэрка»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

### 30 мая

**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 31 мая

**Беларускай драматургіі** — «Скрыпач на даху»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»
**Оперы і балета** — «Баядэрка»

## КІНО

### Няшчасны мільянер

«Вялікі Гэтсбі»
**Жанр:** драма
**Рэжысер:** Баз Лурман
**У ролях:** Леанарда Дзі Капрыа, Тобі Магуайр, Кэры Маліган, Джоэл Эдгертон, Айла Фішар, Ліза Адам
Аўстралія, ЗША, 143 хв.

1922 год. Нік Кэраўэй прыязджае з Сярэдняга Захаду ў Нью-Ёрк, каб здзейсніць асабістую амерыканскую мару — падзарабіць грошай на біржы і пажыць разгульным жыццём. Ён селіцца на ўзбярэжжы Лонг-Айленда побач з таямнічым мільянерам Гэтсбі і бавіць час у сям'і сваёй кузіны Дэйзі, якая замужам за арыстакратам і вядомым гульцом у пола Томам Б'юкененам. Нечакана Нік аказваецца запрошаным на адзін з шыкоўных вечароў, якія часта ладзіць Гэтсбі ў сваім замку, і знаёміцца з гаспадаром. Высвятляецца, што багацей жыве адзінай марай — каханнем да Дэйзі і жаданнем агульнага шчасця з ёю.

Рэжысёр Баз Лурман вядомы мюзіклам «Мулен Руж», «Гэтсбі» ж не саступае яму ў відовішчнасці і музычным афармленні. На джазавыя мелодыі накладаюцца сучасныя клубныя рытмы. Дзі Капрыа (Гэтсбі) — адна з найвялікшых зорак Галівуда, сыграў чалавека, які выйшаў з беднай сям'і і шмат працаваў, каб зрабіцца багатым, але не страціў мару, — падаецца трохі павярхоўным.

Гэта не чыстая драма, фільм больш забаўляльны, хоць рэжысёр амаль не адступае ад асноўнага сюжэта аднайменнага рамана Фіцджэральда.

**Настасся Уласава**






«Нафтан» — пераможца мінулага Кубка.

### «Дынама» — «Мінск»

**26 мая на стадыёне «Тарпеда» ў горадзе Жодзіна** пройдзе фінальная гульня за Кубак Беларусі па футболе. Згуляюць мінскае «Дынама» і футбольны клуб «Мінск». Пачатак а 17:00. Калі Кубкам завалодае «Мінск», то ён атрымае яшчэ і пуцёўку ў Лігу Еўропы. «Дынама» ж будзе гуляць там у любым выпадку.

# З Беларусі ў Партугалію і назад

**Чым жыццё на заходнім краі кантынента адрозніваецца ад беларускага?**

Віталь Каспяровіч пражыў у невялікім партугальскім горадзе Аруда-Душ-Віньюш дзевяць гадоў, а потым вярнуўся ў Беларусь. Ён расказаў «Нашай Ніве», як знаходжанне ў Еўропе змяняе светапогляд савецкага чалавека.

### Трапіў на грошы і з’ехаў у Партугалію

Я нарадзіўся ў Міханавічах, вывучыўся ў ПТВ на электрыка. Пасля — армія. Вярнуўся — і праз нейкі час СССР развaліўся. Я пачаў уласны бізнэс. Займаўся ўсім, чым мог, часам не зусім легальна... Здарылася так, што памежнікі канфіскавалі ў мяне аўтамабіль і я «папаў» на грошы. І тут мая былая суседка, уладальніца турагенцтва, прапанавала паехаць на заробкі ў Партугалію. Мяне нічога не трымала, таму ў 1999-м я ўсё прадаў і паехаў.

### Першае ўражанне

Ноччу наш цягнік прыбыў у Лісабон, і трэба было чакаць некалькі гадзін, пакуль нас забяруць шэфы. І вось ранкам ля невялікага кіёска спыняецца аўтамабіль-«абцасік», адтуль дастаюць паддоны з хлебам, ставяць іх на зямлю каля ўвахода і пакідаюць. І ніхто нічога не крадзе! Для мяне гэта было дзіка.

Аруда-Душ-Віньюш — мястэчка за 30 кіламетраў на поўнач ад Лісабона. Насельніцтва — 5,8 тысячы чалавек.




### Кар’ерная лесвіца: ад падсобніка да электрыка

Я ехаў і думаў, што мне дадуць інтэрнат і працу. Усё аказалася трошкі інакш. Беларусаў было няшмат, чалавек шэсць. Справамі займалася ўкраінска-малдаўская «мафія». Яны забяспечвалі працай і жытлом на 15 дзён, а потым усіх выганялі. Аднак пастаянна ціснулі на нас, маўляў, вы тут ніхто, вы не ведаеце мовы — усё роўна да нас вернецеся. Я не вярнуўся — і дзень, і ноч сядзеў над падручнікамі, вучыў мову. Сам знайшоў працу і зняў кватэру, перацягнуў беларусаў да сябе. На мяне, зразумела, наехала мафія — я і «пад нажом» сядзеў. Аднак неяк усё супакоілася, а недзе праз год паліцыя сур’ёзна ўзялася за гэтую мафію — і ўсе яны былі вымушаныя з’ехаць ці легалізавацца.

Спачатку я дапамагаў муляру. Вы толькі ўявіце: брыгада з аднаго муляра і трох памочнікаў будавала дом за паўгода! Не такія, як у нас, «брэжнеўкі», а трох- і чатырохпавярховыя. Пры гэтым усё робіць адзін муляр: і падмурак, і сцены, і дах, і мармуровыя парэнчы, рамы для вокнаў і дзвярэй.

А потым мне нечакана прапанавалі працу электрыка — нехта пачуў, што ў Беларусі я гэтым займаўся. Пасведчанняў ніякіх не пыталіся. Я быў шчаслівы, бо гэта сапраўды крок уверх.

### «Не ганарацца працай, на якой можна нічога не рабіць»

Стаўленне да працы ў жыхароў з постсавецкай прасторы і ў партугальцаў — абсалютна рознае. Украінцы і малдаване, якія былі са мною, казалі, што яны прыехалі не працаваць, а зарабляць. У Беларусі таксама шмат людзей, якія ганарацца працай, на якой можна атрымліваць грошы за праседжванне штаноў. У Партугаліі такое немагчыма! Кожнаму зразумела, што, калі ты не працуеш, твая фірма не зарабляе грошы і сродкаў на выплаты заробку няма.

Што цікава, цябе ніхто не кантралюе, бо ты спецыяліст, якому плацяць грошы за прафесіяналізм і якасную працу. У Беларусі я цяпер працую ў сферы ЖКГ, і над кожным стаіць па кантралёру.

Напачатку свайго партугальскага жыцця, памятаю, загадалі мне нешта падмесці. Я падмёў, і, як у нас прынята, сеў і сяджу. Да мяне падыходзіць прараб і пачынае з шалёнай жэстыкуляцыяй — партугальцы вельмі эмацыйныя людзі — лаяць мяне за тое, што я не прыйшоў да яго. Бо там так: калі ў цябе скончылася праца, дык падыдзі да «патрона» і паведамі яму — дадуць іншую. Гультаям прыходзілася несалодка. Іх не бралі на працу.

### «Жыць сям’ёй можна не тое што на заробак — на бальнічны!»

Партугалія дагэтуль лічыцца адной з самых бедных краін Еўрасаюза. Я пачынаў з заробку ў 400 еўра. Гэта было мізэрна мала, аднак тое была легальная праца. Пасля мяне пераманіла фірма-канкурэнт. Потым зноў першая фірма, але за большыя грошы — яны цэняць добрых спецыялістаў. Напярэдадні ад’езду я зарабляў 800 еўра.



Аднак за гэтыя грошы магла пражыць цэлая сям’я: каля 220 еўра за арэнду трохпакаёвай кватэры, 50 еўра за электрычнасць, 12 еўра за балон газу. Ежа і адзенне таннейшыя, чым у Беларусі. Ды што там казаць! Здарылася так, што на працы я атрымаў пашкоджанне меніска. Мне хутка зрабілі аперацыю, прызначылі працэдуры. Праз гэта я не змог працаваць цягам некалькіх месяцаў. А жонка ў той самы час нарадзіла і пры гэтым не атрымлівала дапамогу на дзіця — да нараджэння дачкі працавала нелегальна.

Аднак мой «бальнічны» быў роўны майму заробку. І ў лісабонскую клініку, якая знаходзіцца за 30 км ад Аруда-Душ-Віньюш, мяне вазілі на таксі бясплатна.

### «Улады даюць бясплатнае віно, але ніводнага п’янага не знойдзеце»

Да нас, замежнікаў, ад самага пачатку ставіліся добра, непаважна. Ніхто не клікаў якімі-небудзь «чуркамі». Наадварот, калі засяліліся ў кватэру з голымі сценамі, знаёмыя партугальцы дапамагалі хто чым можа.

Падабаецца, што пры несправядлівасці партугальцы не будуць маўчаць. Просты рабочы можа выказаць сваю незадаволенасць «патрону»-ўладальніку кампаніі, які валодае мільёнамі еўра і фабрыкамі. І калі ён мае рацыю, супраць яго не будуць чыніць ніякіх рэпрэсій, не будуць яго звальняць ці пазбаўляць прэміі.

**За спінаю могуць перашэптвацца: «Вось дурань, з Еўропы ў Беларусь вярнуўся»**

Яшчэ ўражвала, што падчас святаў і карыды, якая праходзіць наўпрост на вуліцах горада, муніцыпальныя ўлады выстаўляюць бясплатнае віно і пачастунак: хлеб ды рыбу. Парадокс: віна хоць заліся, а п’яных няма!




### «Даведваюцца, што з’ехаў — і за спінай называюць дурнем»

Пра тое, што працаваў за мяжою, а потым з’ехаў, стараюся не расказваць. Распавядзеш — і за спінаю могуць перашэптвацца: «Вось дурань, з Еўропы ў Беларусь вярнуўся».

Вярнуцца захацела жонка. Яна сама ўкраінка, сустрэліся мы ў Партугаліі. Там у нас нарадзілася дачка. Мая жонка настаўніца, аднак жанчынам знайсці працу складаней — і тое хіба прыбіральшчыцай. Заробкі ж у жанчын нашмат ніжэйшыя за мужчынскія.

Жанчыну з дзіцём не возьмуць на працу, бо заканадаўча ёй належыць скарочаны 6-гадзінны працоўны дзень з захаваннем поўнага заробку. Ёй было маральна цяжка. Таму я прыехаў назад у Беларусь, прагледзеў аб’явы аб працы. Насамрэч мною кіраваў чысты меркантылізм: чаго заставацца там, калі я магу атрымліваць столькі ж тут. Аднак калі я пажыў тут, акунуўся ў руціну, то падумаў, можа, дарма вяртаўся.

### «Беларусы зрываюць злосць калі не трэба, а калі трэба — маўчаць»

Прызнаюся, калі пакідаў Партугалію, быў упэўнены, што чалавек кшталту Лукашэнкі карысны для Беларусі. Бо наглядзеўся, як свабода біла ў галаву суайчыннікам: бязбожна пілі, буянілі па начах, здараліся, кралі з супермаркетаў усялякія дробязі: шакаладкі, жвачкі. Аднак цяпер зразумеў што да чаго. Я хаджу на мітынгі, раздаю ўлёткі, сцяг дзе-нідзе павешу... Беларусам трэба пачынаць думаць па-еўрапейску і стаць дабрэйшымі адно да аднаго. Бо нашы людзі вельмі запалоханыя.

Партугальцы добра ведаюць сваю гісторыю і ганарацца ёю. Але і беларусам хапае чым ганарыцца. Кожны можа раздрукаваць некалькі матывацыйных улётак і закінуць у паштовую скрыню.

Нельга заставацца абыякавымі. Трэба любымі сродкамі падтрымліваць актыўнасць. Пасля 19 снежня на маёй машыне налепленая «Пагоня». І калі я бачу чалавека з «Пагоняй» ці бел-чырвона-белым сцягам, я падыду да яго і паціcну руку. І так трэба рабіць кожны раз, каб людзі адчувалі салідарнасць, каб у іх вачах не згасала святло надзеі. Я памятаю: заехаў у супермаркет пасля працы, купіў прадуктаў. А ахоўнік неяк дзіўна глядзіць на мяне, вачэй не адводзіць. Я іду да аўто — ён за мной. Падышоў і кажа: «Я ў вас заўважыў «Пагоню». Хацеў сказаць «дзякуй». І паціснуў мне руку.

У Аруда-Душ-Віньюш я жыў на вельмі вузкай вуліцы. І калі мне даводзілася даставаць калыску з дачкой з аўто, я перакрываў рух. Аднак ніхто не сігналіў, не злаваўся. Людзі ветліва ставяцца адно да аднаго і разумеюць, што заўтра яны могуць апынуцца ў такой самай сітуацыі. А ў нас наадварот: зрываюць сваю злосць на дарогах, а калі трэба — маўчаць.

Кірыла Хілько



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

На Плошчы Перамогі прайшоў Другі Рэспубліканскі піянерскі збор. Дэвізам, пад якім шэрагі беларускіх піянераў папоўнілі 19 новых чальцоў, быў: «Я — піянер сваёй краіны».



**Народ Кеніі абураны. Мясцовыя дэпутаты захацелі павысіць сабе заробкі да 10 тысяч даляраў ЗША. Каб выказаць свой пратэст супраць «прагных свіней», дэманстранты выпусцілі вывадак дзюдзяў проста ля варот парламента у Найробі і разлілі на тратуары свіную кроў. Для ўціхамірвання гараджан быў выкліканы нарад кенійскага АМАПа (на фота).**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Галубяня на паддашку шматпавярховага дома ў Жодзіне.



БЕЛАПАН

Срэбнае вяселле ў «Ноч музеяў» адзначылі пісьменнікі Людміла Рублеўская і Віктар Шніп. Яны расказалі аб сваім першым спатканні прысутным у музеі Якуба Коласа.

## Анекдоты і жарты

* * *

Заходзіць Скабелка ў краму спорттавараў, падыходзіць да прылаўка і кажа прадаўцу:

— Я — трэнер зборнай. Дайце мне мячы футбольныя, валейбольныя, баскетбольныя, біты для бейсбола, ракеткі, тэнісныя мячыкі, валанчыкі.

— А што ў вас за зборная?

— Вось і я хачу зразумець, у што яны гуляюць ...

* * *

У закон аб курэнні ў грамадскіх месцах унесена істотная праўка: гульцам зборнай Беларусі па хакеі катэгарычна забараняецца курыць каля сваіх варот.

* * *

— Чаму Ланская не перамагла?

— Бо прадзюсара Баранава не прапусцілі ў апаратную.

* * *

— Як ты глядзіш на спорт?

— Звычайна з півам і чыпсамі.

* * *

Яны — прадстаўнікі самай старажытнай прафесіі. Яны спяць за грошы. Яны — вартаўнікі.

* * *

Сядзяць тры дзяўчыны і абмяркоўваюць газетную абвестку: «Баксёр, 2 гады, шукае нявесту».

— Ды тут, відаць, памылка друку — яму 22 гады...

— Ды не, напэўна, ён ужо 2 гады, як пачаў шукаць...

— Дурніцы! Гэта ж пра сабак!

* * *

Прыходзіць суддзя пасля выходных на працу.

— Ну што, — пытаюцца калегі, — бульбу на дачы пасадзіў?

— Не, даў ёй умоўны тэрмін.

## «НН» сто гадоў з вамі

**На цыгундар.** Рэдактар «Нашай Нівы» А.Н.Уласаў цягне пад суд рэдактара «Северо-Западной Жизни» Саланевіча за брахню ў яго газеце, быццам нейкія палякі ў Вільні рабілі складчыну на дапамогу А.Н.Уласаву.

**«НН». №20. 1913.**

**Ракаў — у Спартакаў!** Перайменаванне станцыі метро «Ракаўская» ў «Спартыўную» яшчэ не набыло законнае моцы. Хацелася б верыць, што гарадскія ўлады выявяць дастаткова разважлівасці, каб зноў звярнуцца да адмыслоўцаў і не пераназываць станцыю ў цапу-лапу.

**«НН». №19. 2003.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 21.05.2013.
Замова № 2224.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12